НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 22 (859) 11 чэрвеня 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Самае грандыёзнае шоу



Пра чэмпіянат свету па футболе – **старонкі 8—9**.

REUTERS

### Палітыка

## «Лукашэнка ў Кіеве кайфаваў»

Кіраўнік Беларусі быў на інаўгурацыі Парашэнкі.
**Старонка 3.**



### Гаспадарка

## Колькі зарабляюць кампаніі беларускіх мільянераў?

«Савушкаў прадукт», «Еўрагандаль». **Старонка 5.**



### Грамадства

## Гвалт і нянавісць у Мінску

Дзікая гісторыя здарылася ў трамваі №3.
**Старонка 6.**



### Эсэ

## Зміцер Дашкевіч. Суд і любоў

Ці разумееце вы, што прадаяце душу?
**Старонкі 12—13.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Футбол і фавэлы

Ад 12 чэрвеня да 13 ліпеня на палях Бразіліі пройдзе 20-ы **чэмпіянат свету** па футболе.

Навукай даказаны факт: падчас мундыялю эфектыўнасць працы ва ўсім свеце падае. Людзі чакаюць матчаў, абмяркоўваюць іх, робяць стаўкі, спрачаюцца. У такія дні не да працы. Чэмпіянат свету па футболе працягвае заставацца самай грандыёзнай падзеяй для чалавецтва.

Сёлета чэмпіянат пройдзе ў Бразіліі. Збітая фраза, але для гэтай краіны футбол — гэта рэлігія. Ёсць такі анекдот, што бразільскія бацькі палохаюць дзяцей: «Калі будзеш кепска гуляць у футбол, пойдзеш ва ўніверсітэт». Праўда, футбольная Бразілія ўжо не тая. Галоўны рэдактар «Прессбола» Сяргей Кайко напісаў, што «Нэймар у ролі галоўнай зоркі зборнай Бразіліі — гэта кпіна з вялікіх гульцоў мінулага».

Маўляў, няма новых Пеле і Рамарыа, даводзіцца абыходзіцца не самым зорным Нэймарам. Тым не менш, букмекеры ўсё адно ставяць гаспадароў галоўным фаварытам.

Цікава, але ў Бразіліі гучаць тысячы галасоў людзей, якія катэгарычна выступаюць супраць першынства. Маўляў, вы спачатку парадак у фавэлах (трушчобах) навядзіце ды са злачыннасцю разбярыцеся (паліцыя не абяцае турыстам бяспекі), а потым ужо мундыяль ладзьце. Дый эканоміка бразільская не самая ўстойлівая. Не так даўно мясцовы рэал дэвальваўся да даляра на 20%. Таму і пратэсты перад чэмпіянатам праходзяць вельмі шматлікія.




Спартовыя спаборніцтвы — задавальненне не таннае. Еўрапейскія краіны апошнім часам усё часцей адмаўляюцца ад мундыяляў і алімпіяд, а прымаюць іх у сябе багатыя на энерганосьбіты краіны. Расія і Катар ужо рыхтуюцца да правядзення чэмпіянатаў 2018 і 2022 адпаведна. А Казахстан можа прыняць зімовую Алімпіяду — 2022.

Але вернемся да футбола. Хто яшчэ фаварыты, апроч бразільцаў? Канечне, іспанцы! Вялікая каманда: яны выйгравалі два апошнія Еўра і адзін мундыяль. Немцы, якім ужо шмат гадоў бракуе крышачку-крышачку. Аргенцінцы з геніяльным Леа Месі. Сюрпрызныя бельгійцы і абяскроўленыя стратай Рыберы французы. А яшчэ італьянцы, англічане і ўругвайцы. Футбола будзе шмат: кожны мусіць знайсці каманду на свой густ.

**Зміцер Панкавец**

**Больш пра чэмпіянат свету — старонкі 8-9.**

# Праляскоўскага заменіць Гігін або Шадко?

Артылерыст Алег Праляскоўскі **адпраўлены ў адстаўку** з пасады міністра інфармацыі.

Праляскоўскі нарадзіўся ў 1963 годзе ў Сергіевым Пасадзе, гэта мястэчка за 75 км ад Масквы. А ў Беларусі ён атрымаў адукацыю, закончыўшы Мінскае вайсковае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча.

Пасля паехаў у Германію, служыць у тамтэйшай групе савецкіх войскаў. Ягоны дывізіён знаходзіўся за 40 км ад адной з натаўскіх баз, узгадваў Праляскоўскі.

Вярнуўшыся ў Мінск, ён служыў у ракетным вучылішчы, а пасля стаў выкладчыкам у Вайсковай акадэміі. Паспеў, дарэчы, закончыць юрфак БДУ.

### З войска — на ідэалагічны фронт

Вайсковую кар'еру Праляскоўскі з цягам часу прамяняў на інфармацыйна-прапагандысцкую. З аналітычнага аддзела ў службе бяспекі прэзідэнта яго перавялі ў інфармацыйнае агенцтва БелТА, прычым адразу дырэктарам.



Дзмітрый Шадко ўзначальваў часопіс «Планета».




**Вадзім Гігін раней быў прыхільнікам заходнерусізму.**

Адтуль Праляскоўскі перайшоў у Адміністрацыю прэзідэнта. Спачатку намеснікам кіраўніка, а пасля кіраўніком Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення.

У 2007 чыноўнік падаў у суд на «Народную волю» і журналістку Марыну Коктыш за абразу свайго гонару. Агулам Праляскоўскі атрымаў ад іх каля $12 тысяч.

У 2009 ён стаў міністрам інфармацыі. Ад Праляскоўскага-міністра «Наша Ніва» атрымала некалькі папярэджанняў, а ў сярэдзіне 2011 ягонае ведамства ініцыявала судовы працэс аб закрыцці газеты. Ад пазову прадстаўнік міністэрства адмовіўся ў зале суда.

Адной са сваіх задач на пасадзе міністра ён бачыў развіццё рэгіянальнай прэсы. Аднак «раёнкі» дагэтуль малапапулярныя і адыгрываюць на інфармацыйнай прасторы мінімальную ролю.

### Хто на замену?

Прычыны звальнення не называюцца. Сярод імаверных зменшчыкаў Праляскоўскага найчасцей называюць тры прозвішчы: галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская думка» Вадзіма Гігіна, першага намесніка сувязі Дзмітрыя Шадко і кіраўніка ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Усевалада Янчэўскага.

Гігіну 36 гадоў, ён гісторык па адукацыі. Ад 2008 года ўзначальвае часопіс «Беларуская думка», з нядаўняга часу вядзе на тэлеканале АНТ ток-шоу «Пазіцыя». Гігін з'яўляўся прыхільнікам канцэпцыі заходнерусізму. Захапляўся асобай віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва, які задушыў паўстанне Каліноўскага.

Дзмітрыю Шадко 35 гадоў. Ён скончыў БДУІР. Быў доўгі час рэдактарам часопіса «Планета». Пасля гэтага яго прызначылі першым намеснікам міністра інфармацыі, а апошнія паўгода ён працуе намеснікам міністра сувязі.

Усевалад Янчэўскі менш імаверная кандыдатура. Блізкі сябра Віктара Лукашэнкі, ён быў лідарам БРСМ, працаваў у той самай «Планеце».

Пакуль жа выконваючым абавязкі міністра інфармацыі прызначаная даўняя супрацоўніца міністэрства Лілія Ананіч.

**Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец**

## Сцісла

**Лукашэнка запатрабаваў вызваліць настаўнікаў**

«Я мяркую, што адпаведная група вывучае, а дакладней, сістэматызуе пытанні, каб нарэшце вызваліць настаўнікаў ад неўласцівых функцый і прымусіць іх займацца толькі сваёй справай — перадачай ведаў і навучаннем дзяцей і выхаваннем іх», — сказаў Аляксандр Лукашэнка ў аўторак. А тыя настаўнікі як былі ў вёсках затычкай на ўсе дзіркі, так і застаюцца.

**Алімпійская чэмпіёнка разбілася на квадрацыкле**

Шасціразовая алімпійская чэмпіёнка ў плаванні, амерыканка Эмі Ван Дайкен была шпіталізавана ў рэанімацыю ў горадзе Скотсдэйл у Арызоне, пасля таго як трапіла ў ДТЗ на квадрацыкле. Ван Дайкен зламала хрыбет і трапіла ў аддзяленне інтэнсіўнай тэрапіі. Яна паралізаваная.

**Спроба захопу самалёта Кутаісі — Мінск**

Камандзіру экіпажа ад пасажыра была перададзена запіска з пагрозай падарваць авіялайнер і патрабаваннем аб змене курса палёту ў адну з еўрапейскіх краін. Тым не менш, пілоты пасадзілі самалёт у Мінску. Праз нейкі час 41-гадовы грузін здаўся спецслужбам.

**Гомельскі доктар прадаваў бальнічныя за мяса**

Набыў сілу прысуд у дачыненні да доктара агульнай практыкі, які браў хабар за выдачу лісткоў часовай непрацаздольнасці. Абвінавачаны прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Браў доктар хабар мясам, півам і цукеркамі.

**ЛМ**

## Апытанні на nn.by

**Беларусы — агрэсіўныя людзі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 577 | 30% |
| Не | 320 | 17% |
| Як калі | 487 | 25% |
| Як хто | 529 | 28% |

Усяго прагаласавала 1913.

## Самае чытанае на nn.by за 4-10 чэрвеня

1 Бойка ў мінскім трамваі: пасажыры выкідваюць з салона безбілетнікаў

2 БТ дайшло да поўнага маразму

3 Рыяна выйшла ў свет у сукенцы, пад якой нічога не было

4 Коля Лукашэнка зрабіў Турчынаву падарунак ФОТАФАКТ

5 «Коця, смерч ідзе!» — тарнада ў Мінску ВІДЭА

6 Незвычайнае прызнанне ў каханні ў цэнтры Мінска ФОТА

7 Беларус, які паехаў ваяваць за Украіну: На вайне галоўнае — захоўваць спакой

8 Меркель звяла Пуціна з Парашэнкам у Нармандыі

9 Ікона польскага спорту сенсацыйна прызналася ў моцнай дэпрэсіі: У мяне ўсё кепска

10 Лукашэнка — украінцам: Тэрарыстаў трэба знішчаць

# «Было відаць, што Лукашэнка ў Кіеве кайфуе»

**Кіраўнік Беларусі стаў зоркай на інаўгурацыі Пятра Парашэнкі.**

У Кіеве адбылася не проста інаўгурацыя. Гэта быў маленькі дзень перамогі. Памятаеце, як некалькі месяцаў назад многія расійскія — а за імі і некаторыя беларускія — СМІ абвяшчалі, што «Украіны больш не існуе», «Украіна распалася», «8 абласцей утвораць Наваросію»? Дык вось, фігушкі.

Таму ў Кіеў прыляцелі і Байдэн, і ван Рампей, і Грыбаўскайце.

Калі стала вядома, што кіраўніка Беларусі запрасілі ў Кіеў на інаўгурацыю новага прэзідэнта Украіны, усе пачалі гадаць: паедзе ці не паедзе? Маўляў, Пуцін, якога на ўрачыстасці, канечне, не запрасілі, можа не адобрыць. А навошта нарывацца? Зусім нядаўна ў інтэрв'ю Ксеніі Сабчак Лукашэнка прызнаўся, што не злётаў з візітам у Грузію пры Саакашвілі, каб не злаваць Крэмль.

Тым не менш, 7 чэрвеня Лукашэнка быў у Кіеве. Украінскія журналісты адразу звярнулі ўвагу на світу кіраўніка Беларусі, яго картэж складаўся з адзінаццаці машын. Больш быў толькі ў Байдэна.

У Вярхоўнай Радзе Лукашэнка сядзеў паміж прэзідэнтамі Малдовы і Грузіі Мікалае Цімафці і Георгіем Маргвелашвілі. А наступнымі былі кіраўнічка Літвы Даля Грыбаўскайце і віцэ-прэзідэнт ЗША Джо Байдэн. Ёсць падставы думаць, што Лукашэнка з прадстаўніком Амерыкі на ўрачыстым прыёме паразмаўляў.

Калі Парашэнка ў сваёй інаўгурацыйнай прамове сказаў, што «Крым ёсць і будзе ўкраінскім», то зала паднялася і заапладзіравала. Лукашэнка ўзняўся разам з усімі.

А перад тым дэпутаты, незалежна ад партыйнай прыналежнасці, бурна віталі самога Лукашэнку, як нікога іншага. Для Грыбаўскайце ці Цімафці гэта быў проста прыезд. З боку Лукашэнкі гэта быў учынак, і украінцы тое ацанілі.

Прамова новага ўкраінскага прэзідэнта атрымалася вельмі эмацыйнай. Ён пачаў яе цытатай з класіка ўкраінскай літаратуры Івана Франко: «Украінцы — гэта жывы агянёк у сям'і еўрапейскіх народаў». Парашэнка прамаўляў па-ўкраінску, але зварот да жыхароў Данецкай і Луганскай абласцей быў па-расейску.

Па сканчэнні ўрачыстасцяў Лукашэнку на вуліцы акружылі журналісты. Ён ад такога і адвыкшы ўжо, бо ў Мінску да кіраўніка Беларусі даўно несанкцыянавана не дапускаюць нікога.

Лукашэнка нагаварыў украінцам тое, што яны хацелі ад яго пачуць: «тэрарыстаў на ўсходзе трэба знішчаць, але глядзіце, сваіх не перастраляйце, разбярыцеся спачатку, хто свой, хто чужы. І — не губляйце Крыма».

Журналісты звярнулі ўвагу, што знаходзіцца ў Кіеве Лукашэнку было вельмі прыемна. «Было відаць, што Лукашэнка кайфуе. Цяжка жыць унутры агароджы, і хочацца вырвацца ў прыстойную грамаду», — кажа журналіст беларускага паходжання Павел Шарамет, які цяпер жыве ў Кіеве.

Сапраўды, варта толькі паўзіраццa ў твар Лукашэнкі падчас сустрэчы са спікерам Вярхоўнай Рады Аляксандрам Турчынавым, на якім шчаслівая бестурботная ўсмешка. Рэдка ўбачыш такую падчас спатканняў з Пуціным. А падчас падпісання ЕАЭС увогуле складалася ўражанне, што кіраўнік Беларусі на хаўтурах.

Простыя жыхары Кіева віталі Лукашэнку на Сафійскай плошчы крыкамі «Жыве Беларусь». Ён ззяў і махаў у адказ.

У панядзелак падчас інтэрв'ю для сербскіх СМІ Лукашэнка сказаў: «Прынамсі са мной на Захадзе ўжо вітаюцца і размаўляюць — гэта прагрэс».

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», акрамя тэлефоннай размовы з польскім прэм'ерам Туском, Аляксандр Лукашэнка ў часе ўкраінскага крызісу меў гутаркі і з іншымі еўрапейскімі кіраўнікамі.

Праўда, пакуль няясна, ці разуменне супольных пагрозаў прывядзе да новай адлігі ў адносінах Беларусі з Еўрасаюзам.

**Зміцер Панкавец**

**Андрэй Саннікаў: Прысутнасць Лукашэнкі ў Кіеве дыскрэдытуе новыя ўлады Украіны**

Запрашэнне Лукашэнкі дыскрэдытуе прэзідэнта Парашэнку і ўкраінскія ўлады. Я спадзяюся, што ідэалы Майдану і воля Майдану не дазволяць новым украінскім кіраўнікам пайсці амаральным і небяспечным для Украіны шляхам сяброўства з дыктатарам, — напісаў на сайце Charter97.org эмігрант, былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў.

**Першыя прызначэнні Пятра Парашэнкі**

Кіраўніком ягонай адміністрацыі нечакана стаў мільянер з Харкава Барыс Ложкін — стваральнік папулярных ва Украіне і Расіі СМІ, раней далёкі ад палітыкі. А першым дарадцам — малавядомы ўкраінскі дыпламат Юрый Анішчанка, які апошнім часам працаваў пaслом Украіны ў Нарвегіі.

**Лукашэнка: Прыеду на Майдан**

У кіраўніка беларускай дзяржавы таксама пацікавіліся, ці наведае ён Майдан, на што Лукашэнка адказаў, што яго туды не запрашалі і ісці туды ён не планаваў. «Калі там будзе ўстаноўлены помнік загінулым і мяне запросяць на яго адкрыццё, я абавязкова прыму запрашэнне», — дадаў ён.



**Лукашэнка (трэці злева) у акружэнні еўрапейскіх лідараў апладзіруе Пятру Парашэнку.**



**Пятра Парашэнку і Уладзіміра Пуціна звяла ў Нармандыі Ангела Меркель (са спіны злева). Пачуцці Парашэнкі чыталіся ў яго на твары.**



REUTERS

**Коля Лукашэнка зрабіў падарунак Аляксандру Турчынаву.**

# Еўрапейскі аналітык: Мінск вельмі ўдала лавіраваў у часе ўкраінскага крызісу

«Для Беларусі незалежная Украіна нават больш патрэбная, чым для Польшчы, — мяркуе Войцех Канончук, аналітык польскага Асяродка ўсходніх даследаванняў. У выпадку падпадання Украіны ў расійскую зону ўплыву Беларусь застанецца адзін на адзін з Масквой».

Гэтае меркаванне аналітык выказаў на дыскусіі «Украінскія падзеі праз прызму Беларусі», што прайшла 9 чэрвеня ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта.

У дыскусіі ўзялі ўдзел таксама палітолагі Анаіс Марэн і Рыгор Астапеня, кіраўнік Case-Беларусь Серж Наўродскі. Вёў дыскусію журналіст Андрэй Пачобут.

Канончук адзначыў, што на Захадзе няма адназначнай ацэнкі, ці беларуская армія незалежная, ці яна дэ-факта стала часткай расійскай. І гэта робіць немагчымым прагноз, як бы Беларусь рэагавала ў выпадку спробы Расіі далучыць Беларусь сілай.

Анаіс Марэн, якая раней працавала ў Фінскім інстытуце міжнародных адносін, а цяпер жыве ў Польшчы, лічыць, што Мінск вельмі ўдала лавіраваў у часе ўкраінскага крызісу, каб захаваць у цэлым нейтралітэт. На думку Марэн, Беларусі ўдалося не справакаваць Расіі, але адначасова прадэманстраваць Украіне добрасуседства.

Але, лічыць Марэн, гэта ўсяго толькі тактычная перамога, а стратэгічныя перспектывы нашай краіны невясёлыя.

На думку Марэн, Беларусь сама завяла сябе ў такую сітуацыю — і палітычна, і эканамічна, калі ёй вельмі цяжка супрацьстаяць намаганням Расіі далучыць яе ў якасці суб'екта. А такія намаганні будуць, упэўненая яна, пытанне толькі калі. Для Беларусі ў Крамлі рыхтуецца не крымскі і не данецкі, а асаблівы сцэнар.

Скептыцызм што да перспектываў Беларусі выказаў і мадэратар Андрэй Пачобут. Ён адзначыў, што новы прарасійскі, прасавецкі трэнд захапіў і моладзь у Беларусі, і няясна, калі гэтая хваля зменіцца.

**Мікола Бугай**

# Чаму ў Польшчы ўсё танней?

Свініна ў Беларусі стала ўдвая даражэйшая, чым у Польшчы, Украіне і Літве. Даражэйшыя ў нас цяпер, чым ва ўсіх суседзяў (акрамя як з усходу) і жоўтыя сыры. Малочнае цяпер у нас у адну цану з краінамі ЕС. А садавіна і гародніна заўжды ў нас каштавала даражэй. Хоць якое ж здаровае харчаванне без яе?

Прычыны трэба шукаць у арганізацыі беларускай сельскай гаспадаркі. Але справа таксама ў Мытным саюзе з Расіяй, які ставіць бар'еры перад здаровай канкурэнцыяй.

Гэта фоты з варшаўскага базарчыка, што на рагу вуліцы Пулаўскай і алеі Лётчыкаў. Тут не самыя нізкія цэны — найтаннейшае трэба шукаць у гіпермаркетах. Тут выдатнай якасці, свяжуткія прадукты.

У Беларусі амаль той самы клімат і зусім той самы народ, што і ў Польшчы. Чаму ў нас няма такога?

**Сяргей Гезгала**






**Цэны на варшаўскім базары ў пераводзе на рублі, за кілаграм (3 злотых = 1 даляр; 1 злоты = 3300 рублёў).**

Свініна, шыя, немарожаная, адборная — 62 000

Свініна філей, немарожаная, адборная — 66 000

Ялавічына гуляшная, адборная — 65 000

Сыр жоўты цвёрды замойскі або эдамскі — каля 80 000

Клубніка мясцовая — 13 000

Клубніка адборная — 17 000

# «Імклівае аскаціньванне СМІ»

Так расійскі журналіст Дзмітрый Глухоўскі назваў тое, што адбылося з большасцю расійскіх медыя з пачаткам вайны ва Украіне. «Усе, хто яшчэ ўчора хоць неяк спрабаваў прыкідвацца журналістам, сёння лупяць прапаганду — агалцелую, прымітыўную, злую», — піша ён. Штодня ў тэлевізійных, друкаваных, а асабліва інтэрнэт-СМІ з'яўляюцца новыя матэрыялы пра злачынствы «бандэраўцаў» на ўсходзе Украіны. У іх непрыхаваная хлусня, якую лёгка абвергнуць. Але самае дзіўнае, што ў яе вераць мільёны людзей. Вось некалькі яскравых прыкладаў няпраўды толькі за апошнія дні.

### Горы за Растовам

«Вось цырк, хоць бы горы фотошопам прыбралі!» — здзіўляецца «той самы» Вадзім Цітушка, капіюючы ў сваім Фэйсбуку фота «8 тысяч бежанцаў з Украіны ў Растоўскай вобласці». Здымак можна знайсці ў інтэрнэце: гэта насамрэч албанскія бежанцы з Косава (тыя самыя, з-за якіх НАТА пачало бамбіць Сербію).

Інфармацыю пра бежанцаў абверглі нават расійскія памежнікі: сапраўды, каля 8 тысяч украінцаў штодня пераходзяць мяжу з Расіяй, але яны кіруюцца на заробкі ці адпачываць, палітычнага прытулку ў Расіі ніводзін з іх не папрасіў.

### Хто каго еў

6 чэрвеня шакуючае фота «Укр есць кацапа» абляцела інтэрнэт. На сайце «Русская весна» яго характарызавалі як «ізуверскі гумар бандэраўцаў». «Нават фашысты не займаліся такімі зверствамі», — грыміць «Русская весна». Праўда, шляхам нядоўгага пошуку ў інтэрнэце можна высветліць, што чалавек у касцы — ніякі не бандэравец, а акрываўленая чалавечая рука — бутафорская. Самае цікавае, што справа адбывалася на здымках расійскага патрыятычнага фільма «Мы з будучыні» — пра сучасных маладых расіянаў, якія трапляюць у ваенныя часы, удзельнічаюць у змаганні з фашыстамі і прасякаюцца духам патрыятызму.




Вадим Титушко поделился фотографией Мир 24 ТВ.
11 мин.

вотэто цырк, хоть бы горы фотошопом убрали!!



Мир 24 ТВ

Режим ЧС ввели в Ростовской области. Только за сутки на территорию области въехали более 8 тысяч беженцев.




06.06.2014 - 23:31

«Укр кушает руку кацапа» — изуверский юмор в блогах бандеровцев




Шокирующее фото с подписью «Укр кушает руку кацапа» сегодня, 6 июня облетело сеть интернет, появилось на многих украинских националистических форумах и страницах социальных сетей сторонников унитарной Украины.

Судя по всему снявшийся на фото лично не принимает участия в боевых действиях, однако находится непосредственно в местах событий.

Пользователи соцсетей задаются вопросом: «Интересно, как матери таких выродков смогут посмотреть в глаза своим сыновьям? Даже фашисты не занимались такими зверствами, как эти бандеровцы... убивать свой народ, своих братьев да ещё и радоваться этому».

### Хлусілі за грошы

Прапагандысцкая машына прадукуе і складанейшыя фэйкі — з удзелам акцёраў. Напрыклад, тэлеканал НТВ паказаў рэпартаж пра «жыхарку Краматорска», якая падчас антытэрарыстычнай аперацыі ва ўласным падвале хаваецца ад куль украінскіх вайскоўцаў. Насамрэч Людміла Журомская жыве ў вёсцы Тэрпіння Запарожскай вобласці — далёка ўбаку ад АТА. За ўдзел у рэпартажах расійскіх СМІ Людміла і яе муж атрымліваюць грошы.



### Расмусэн «адказаў» за тры вайны

5 чэрвеня па інтэрнэце праляцела відэа, на якім генеральнага сакратара НАТА Андэрса Фог Расмусэна абліваюць чырвонай фарбай і называюць «вайсковым злачынцам». Зроблена гэта было нібыта за тое, што Расмусэн заклікаў вярнуць Крым Украіне. Кароткі пошук у сеціве паказвае, што відэа было знятае аж у 2003-м, калі Расмусен яшчэ не быў начальнікам НАТА. Тады прэм'ер-міністра Даніі аблілі фарбай на знак пратэсту супраць вайны ў Іраку. Цікава, што гэтае відэа ўсплывала і ў 2009-м, і тады сцвярджалася, што Расмусэн «адказаў» за бамбардзіроўкі Лівіі.

### І свастык, свастык болей

«Набор у батальён «Азоў» — такі подпіс стаіць пад фота размаляванага свастыкамі скінхэда, якога аглядае нібыта доктар прызыўной камісіі. Батальён «Азоў» — спецпадраздзяленне МУС Украіны, якое дзейнічае ў Данецкай вобласці. Большасць салдатаў у ім — актывісты Майдану. Фота ж скадраванае так, каб не было бачна, што насамрэч на плячах у вайсковага доктара зусім не ўкраінскія знакі адрознення. Дый эмблема «Правага сектара» на грудзях у іншага вайскоўца дамаляваная. Насамрэч фота было зробленае 9 гадоў таму не ва Украіне. Публікацыя была прысвечаная нацысцкім татуіроўкам.

**Падрыхтаваў Сяргей Мікулевіч**




Андерса Фог Расмуссена символично искупали в "крови".

Генерального секретаря Североатлантического альянс Андерса Фог Расмуссена серьезно напугали – на нег практически напали и облили красной краской символизирующей кровь.

October 5, 2005 1:08pm

By Rowdy Joe

Nazi Tattoos

Like Share 14 people like this. Be the friends.



# Колькі зарабляюць кампаніі беларускіх мільянераў?

Беларускія бізнэсмены рэдка хваляцца сваімі прыбыткамі. Хто з іх стаў мільянерам, а хто падступаецца да першага мільярда, застаецца толькі здагадвацца.

Адзіная магчымасць зазірнуць у бухгалтэрыю іх кампаній — штоквартальныя і гадавыя справаздачы, якія публікуе Міністэрства фінансаў. Паводле закона, такія дакументы абавязаныя агалошваць адкрытыя акцыянерныя таварыствы, а таксама кампаніі, якія выстаўлялі на продаж свае аблігацыі.

Сярод прыватнага бізнэсу самай прыбытковай кампаніяй стаў «Еўрагандаль» (крамы «Еўраопт»). Летась яна прынесла сваім гаспадарам, Сяргею Літвіну і Уладзіміру Васільку, $52 мільёны. Для параўнання, пазалетась мільянеры, якія кіруюць бізнэсам з Літвы, куды даўно выехалі, зарабілі $36 мільёнаў.

А вось прыбытковасць панчохаў ад «Контэ Спа» зменшылася, прычым больш чым удвая. Кампанія гродзенскага бізнэсмена Валянціна Бойкі атрымала $22 мільёны і істотна адстала ад «Еўраопта».



Офіс кампаніі Юнівест-М у Мінску.

«Трайпл» — флагман разгалінаванай бізнэс-імперы, якой валодае Юрый Чыж, мільянер з чорнага спіса Еўрасаюза. За мінулы год чысты прыбытак кампаніі, якая займаецца «вытворчасцю прадуктаў нафтаперагонкі», склаў $11 мільёнаў. Абароты «Трайпла» істотна знізіліся, аднак справаздача дэманструе, што бізнэс усё яшчэ выгадны.

Анатоль Тарнаўскі — яшчэ адзін бізнэсмен, які трапіў пад еўрапейскія санкцыі. Ягоны «Юнівест-М», былы нафтатрэйдар, цяпер займаецца аптовым гандлем. Гэта прыносіць па $4 мільёны чыстага прыбытку другі год запар. Нагадаем, у кампаніі на кіруючай пасадзе працавала Ганна Лукашэнка, нявестка кіраўніка краіны і жонка ягонага сына Дзмітрыя.

Брэсцкі бізнэсмен Аляксандр Машэнскі спецыялізуецца на дзвюх «харчовых» вытворчасцях. Ягоны рыбны «Санта-Брэмар» па абаротах абагнаў нават Беларускую чыгунку, але чысты прыбытак аказаўся даволі сціплым, усяго $860 тысяч. А вось на «Савушкавым прадукце» ўдалося зарабіць $15 мільёнаў. Ніводнага рубля з іх не было пералічана на дывідэнды акцыянерам.

З кампаній вядомых бізнэсменаў варта ўзгадаць вытворчасць бялізны «Серж» Сяргея Атрошчанкава (прыбытак — $190 тысяч), будаўнічую кампанію «Мірны шлях» тэнісіста Максіма Мірнага ($830 тысяч замест пазалеташніх $80 тысяч), а таксама прадпрыемства «Спамаш». Гэта адзін з бізнэсаў блізкага да Лукашэнкі мільянера Аляксандра Шакуціна. Летась «Спамаш» прынёс яму чыстых стратаў на $770 тысяч.

Падобныя страты — $690 тысяч — пакуль што нясе і «Гольф-клуб», гучны праект, партнёрам якога з'яўляецца Прэзідэнцкі спартыўны клуб Дзмітрыя Лукашэнкі.

**Ягор Марціновіч**

**Цаны на мяса касмічныя, а мясакамбінаты стратныя**

Некалькі гадоў таму самымі стратнымі акцыянернымі таварыствамі краіны былі малочныя заводы. На іх праходзіла мадэрнізацыя, якая псавала фінансавыя справаздачы. Цяпер у аўтсайдарах апынуліся мясакамбінаты з Барысава, Слуцка, Жлобіна, Оршы, Гомеля, Бабруйска, Калінкавічаў, Глыбокага, Слоніма, Віцебска, Мёраў — агульныя страты больш за $120 мільёнаў.

Топ-10 самых прыбытковых кампаній Беларусі за 2013 год

| | Назва | Чысты прыбытак за 2012 | Чысты прыбытак за 2013 |
|---|---|---|---|
| 1 | Банк развіцця Рэспублікі Беларусь | 187 | 178 |
| 2 | Мазырскі НПЗ | 255 | 157 |
| 3 | Беларуськалій | 804 | 153 |
| 4 | Нафтан | 401 | 142 |
| 5 | Белшына | 109 | 102 |
| 6 | Гомельтранснафта «Дружба» | 102 | 90 |
| 7 | «Нёман» (цыгарэты) | 58 | 61 |
| 8 | Еўрагандаль (магазіны «Еўраопт») | 36 | 52 |
| 9 | Пеленг | — | 43 |
| 10 | Прамагралізінг | 32 | 34 |

*у мільёнах даляраў

# «Вялікая сям'я» патаннела

Грошы збіраюцца даваць за **трэцяе дзіця**.

Сацыяльны праект «Вялікая сям'я», якім летась хваліўся Аляксандр Лукашэнка, усё бліжэй да пачатку рэалізацыі. Вось толькі ў прынцыпова іншым выглядзе, чым было праанансавана.

«За першае дзіця, дапусцім, $10 тысяч. У далярах мы адкрываем рахунак. За другога — $20 тысяч. За трэцяга — падвойваецца. А калі ты яшчэ ўносіш на гэты рахунак сродкі на будучых дзяцей сваіх, то мы больш у два разы даём!» — заяўляў у кастрычніку 2013 года Аляксандр Лукашэнка. Паводле нашых падлікаў, па такой схеме з бюджэту даводзілася б адбаваць па $2 мільярды штогод.

Чыноўнікі прызналі: свабодных грошай на такія выплаты ў краіне няма.

І вось цяпер у палаце прадстаўнікоў загаварылі пра іншыя лічбы. Плануецца, што сям'і, у якой народзіцца трэцяе дзіця, дзяржава будзе пералічваць на спецыяльны рахунак $10 тысяч. А вось наконт таго, ці можна будзе траціць грошы да паўналецця дзіцяці, ідуць дыскусіі. Віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік мяркуе, што «з улікам менталітэту насельніцтва» ўзровень нараджальнасці не падымецца, калі не дазваляць сем'ям карыстацца грашыма. Магчыма, атрыманымі сродкамі дазволяць карыстацца для будаўніцтва жылля.

| | Пачатковыя заявы Лукашэнкі | Праект у парламенце |
|---|---|---|
| Грошы за першае дзіця | $10 тысяч | – |
| Грошы за другое дзіця | $20 тысяч | – |
| Грошы за трэцяе дзіця і наступных | $40 тысяч | $10 тысяч |
| Магчымыя выплаты* | $2 мільярды | $140 мільёнаў |

*з улікам нараджальнасці за 2012 год. У 2013 лічбы нязначна выраслі

**ЯМ**



## Сцісла

**Бензін падаражае да 10%**

Рашэнне аб павышэнні цэнаў на аўтамабільнае паліва абмяркоўваецца ва ўрадзе. Паралельна абмяркоўваецца пытанне аб павышэнні акцызнага падатку на паліва. У 2013 «Белнафтахім» павышаў цэны на паліва 5 разоў.

**Беларусбанк аднавіў выдачу крэдытаў на жыллё**

Ад 9 чэрвеня ААТ «АСБ Беларусбанк» аднаўляе выдачу крэдытаў на набыццё жылых памяшканняў. Скарыстацца крэдытам могуць грамадзяне, якія заключылі дамовы куплі-продажу жылых памяшканняў, пабудаваных па дзяржзаказе ў адпаведнасці з Указам кіраўніка дзяржавы ад 08.05.2013 №215 «Аб некаторых мерах па ўдасканаленні будаўніцтва (узвядзення, рэканструкцыі) жылых памяшканняў». Крэдыты даюцца на тэрмін да 15 гадоў, з выплатай 37,5% гадавых за фактычны час карыстання крэдытам. Максімальная сума — да 75% цаны набытага жылога памяшкання (для шматдзетных сем'яў, якія маюць траіх і больш непаўналетніх дзяцей — 95%) у межах плацежаздольнасці крэдытаатрымальніка.

**У маі золатавалютныя рэзервы паменшалі на $85 млн**

Па выніках мая золатавалютныя рэзервы Беларусі ў вызначэнні стандарту МВФ скараціліся на 85 млн даляраў і на 1 чэрвеня склалі 5 млрд 396 млн даляраў у эквіваленце. Усяго ад пачатку 2014 ЗВР Беларусі скараціліся на 1255 млн даляраў.

**У Мінск хоча прыйсці Holiday Inn**

Кампанія InterContinental Hotels Group, адна з найбуйнейшых глабальных гасцінічных кампаній, падпісала пагадненне аб адкрыцці першага ў Беларусі гатэля сеткі Holiday Inn. Будаўніцтва запланавана ў 2015, адкрыецца ён у 2016. Цяпер вядзецца праектаванне будынка. У гатэлі будзе 205 нумароў, дзевяць з якіх — апартаменты. Holiday Inn Minsk мае размясціцца ў раёне метро «Няміга».

**Новы паклад нафты**

У Гомельскай вобласці адкрыты новы паклад нафты. Насычаны вуглевадародны сыравінай пласт знойдзены ў паўднёвай частцы рэгіёна. Фантанны прыток бязводнай нафты быў атрыманы ў Хойніцкім раёне. Пачатковы дэбіт свідравіны склаў амаль 30 т за дзень. У Беларусі ў распрацоўцы знаходзіцца больш за 60 радовішчаў нафты.

**ЯМ; БелаПАН**

# Гвалт і нянавісць у мінскім трамваі

Гэта дзікая гісторыя здарылася 30 мая і набыла вялікі розгалас у інтэрнэце. Відэазапіс інцыдэнту апублікаваў інтэрнэт-партал «Анлайнер».

Яго даслаў на сайт адзін з пасажыраў мінскага трамвая №3, які вырашыў зняць на мабільнік канфлікт між кантралёрамі і немаладой парай, якая адмовілася аплачваць праезд. Ехалі яны весела: былі, відаць, нападпітку, у мужчыны на каленях ляжала гітара. Калі рэвізоры папрасілі безбілетнікаў выйсці з салона, мужчына стаў прасіцца: маўляў, не высаджвайце, мы і так выходзім на наступным прыпынку. А вось яго спадарожніца паводзілася больш нахабна. Яна пачала крычаць на кантралёраў: на відэа выразна чуваць выраз «с...ка няшчасная».

Адразу пасля вымаўленай фразы жанчыну ззаду па шыі ўдарыў малады хлопец. Ён ударыў бабульку, а пасля паспрабаваў выцягнуць жанчыну з трамвая са словамі: «Жывёла, як ты размаўляеш?» Аднак жанчына моцна ўчапілася за парэнчу.



Здарэнне ў трамваі — не першы выпадак гвалту ў грамадскім транспарце. У 2012 годзе ў Наваполацку п'яны мужчына збіў і выдраў жмут валасоў кандуктарцы ў аўтобусе. А ў мінулым годзе Мінск ускалыхнула бойка ў мінскім метро паміж групай падлеткаў і інвалідам.

Тады ззаду да жанчыны падскочыў яшчэ адзін мужчына, гадоў 35—40. Ён біў нашмат мацней. Ад аднаго з udараў пажылая жанчына пахіснулася ўбок і, здаецца, ударылася аб парэнчу галавой.

Заўважыўшы, што збіццё не прыносіць вынікаў, з канца салона да бабулькі падбег трэці мужчына, гадоў 40, схапіў жанчыну за каўнер і рэзкім рухам літаральна выкінуў праз адчыненыя дзверы на прыпынак. Жанчына прызямлілася на спіну, а мужчына ў дадатак нагамі выпхнуў яе ногі з прахода.

Інтэрнаўты адзначалі, што пара на відэа вядомая злоўжываннем алкагольных напояў. Аднак здзіўляе і тое, колькі людзей у інтэрнэце падтрымліваюць і апраўдваюць дзеянні трох мужчын, якія ахвотна кінуліся збіваць сталую жанчыну. У абмеркаванні відэа неадназова выказвалася думка, што «такія сродкі можна спакойна прымяняць да алкаголікаў і бамжоў». Відаць, значная частка беларусаў падтрымлівае гвалтоўны самасуд. Гэта сведчыць аб вялікай ступені азлобленасці і агрэсіі ў грамадстве, якую, на жаль, часта «зрываюць» на слабейшых.

Тыя ж інтэрнаўты нібыта знайшлі старонку «Укантакце» хлопца з заплечнікам, які ўдарыў першым. Але яна была аператыўна выдаленая з сацыяльнай сеткі. Відаць, абдумаўшыся, «герой» вырашыў не свяціцца.

Мінская міліцыя пакуль не паведаміла, ці праводзіцца праверка па факце бойкі, зафіксаванай на відэа.

**Кірыла Хілько**



**Фотафакт**

Бел-чырвона-белыя сцягі з'явіліся ля Косаўскага замка, непадалёк ад сядзібы, дзе нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка. Сімволіку ўздоўж палаца 6 чэрвеня вывесілі актывісты грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» ў межах кампаніі «За незалежную Беларусь!».



## Чвэрць абітурыентаў выбрала беларускую мову на ЦТ

**Усяго здаваць тэсты зарэгістравалася 105,6 тысяч чалавек.**

Колькасць абітурыентаў, якія ў чэрвені пройдуць цэнтралізаванае тэставанне, значна паменшылася ў параўнанні з мінулым годам. Калі ў 2013 на тэсты зарэгістравалася 117 тысяч чалавек, то ў 2014 Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў налічыў 105,6 тысяч абітурыентаў.

З іх беларускую мову для абавязковага моўнага іспыту выбралі толькі 25%: 26 тысяч супраць 78 тысяч чалавек, якія будуць здаваць расійскую мову. Гэта на 3% менш, чым у 2013 годзе. А ў 2012 беларускую мову здавалі 45 тысяч чалавек — 32% ад агульнага ліку зарэгістраваных.

Колькасць тых, хто хоча здаваць профільныя прадметы па-беларуску, таксама падае. Сёлета беларускамоўныя бланкі тэстаў па гісторыі Беларусі атрымаюць усяго 14,25% абітурыентаў. У 2013 годзе гісторыю Беларусі па-беларуску здавалі 18,8%, а ў 2012 — 23,5% абітурыентаў. У 2011 годзе гэты паказчык быў роўны 33%.

Другое месца трымае сусветная гісторыя. Па-беларуску яе збіраюцца здаваць 6,5% абітурыентаў.

Беларускамоўныя тэсты па біялогіі замовілі 5,5% абітурыентаў, геаграфіі — 5, 18%, па матэматыцы і хіміі — 5%, па фізіцы — 4,8%.

Самая «небеларускамоўная» дысцыпліна ЦТ — грамадазнаўства. Толькі 2% абітурыентаў будуць здаваць гэты іспыт па-беларуску.

Чаго яшчэ чакаць, калі ў беларускамоўных школах краіны ў 2013—2014 вучылася ўсяго 15% ад агульнай колькасці вучняў (142 тысячы).

**Кірыла Хілько**

## БТ дайшло да поўнага маразму

Расказвае Віктар Корбут, спецыяльны карэспандэнт газеты «Советская Белоруссия», аўтар кнігі «Минск. Лучший вид на этот город»:

— Паказваюць фільм пра так званы пояс Вітаўта. Стужка створана «Белвідэацэнтрам» па замове Міністэрства культуры Беларусі на рускай мове. Добра, у нас жа сапраўды дзве дзяржаўныя мовы. На экране з'яўляецца знакаміты Адам Мальдзіс. Каментуе прафесар гісторыю пояса па-беларуску. Я адышоў ад экрана з нейкай пільнай справай — і раптам чую ўжо не голас Мальдзіса, але паказваюць яшчэ яго. Пасля Мальдзіс ізноў загучаў. І тут да мяне дайшло: яго беларускамоўны каментар пераклалі на рускую мову ды агучылі! І гэта яшчэ не ўсё. Пабеларуску гаварыла Ірына Колабава, мая ўніверсітэцкая выкладчыца, сястра нумізмата Валянціна Рабцэвіча. І яе «заглушылі» ды пераклалі...

«Беларусь-3», Міністэрства культуры, «Белвідэацэнтр» — хто ж патлумачыць, які сэнс беларускую мову перакладаць на рускую на беларускім жа тэлеканале?

**kimpress.by**

## У цэнтры Мінска суткі прастаяла «люстэрка салідарнасці»

10 чэрвеня на праспекце Незалежнасці каля плошчы Перамогі з'явілася люстэрка з намаляванымі на ім кратамі і надпісам «Апынуцца можа кожны». Аўтар сімвалічнай інсталяцыі невядомы.

**Фота Ірыны Арахоўскай**







# Рэктар папаўся на хабары

**Такі падарунак атрымаў да свайго дня нараджэння.**

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да Канстанціна Рамішэўскага, кіраўніка Інстытута культуры Беларусі. Гэта мінская ўстанова паслядыпломнай адукацыі. «Высветлена, што рэктар атрымаў хабар у памеры 2000 даляраў. Грошы ён атрымаў за станоўчае вырашэнне пытання з дазволам на карыстанне нерухомасцю ўстановы без дакументальнага афармлення», — паведаміла прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова. Падазраюць, што пусціў арандатараў на дзяржаўныя плошчы, а грошы забраў сабе. Затрымалі яго ў момант перадачы даляраў. І цяпер яму пагражае ад 3 да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

Канстанціну Рамішэўскаму на гэтым тыдні, у панядзелак, споўніўся 51 год. Затрымалі ж яго напярэдадні. Ён — выпускнік кінааператарскага факультэта Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі — знакамітага ВГІКа. Працаваў аператарам на «Беларусьфільме». Сярод знятых ім фільмаў — «Рамантык» (рэжысёр Марк Браўдэ), «У папа быў сабака» (Барыс Няўзораў), экранізацыя «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага (Віктар Тураў). Выкладаў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, БДУ культуры і мастацтваў, дзе з чэрвеня 2010 па люты 2012 быў прарэктарам. Акурат тады ВНУ ўзначальваў сённяшні міністр культуры Барыс Святлоў. Рэктарам Інбелькульта яго прызначылі ў верасні 2013, пасля таго, як Мінкульт не працягнуў кантракт на гэтай пасадзе з фалькларыстам Іванам Круком.

Як адзначыла Юлія Ганчарова, пасля затрымання выкрыўся яшчэ адзін эпізод. У маі Рамішэўскі «на працоўным месцы атрымаў хабар у выглядзе тэлевізара LG, коштам каля 4 мільёнаў рублёў». Мэта ўсё тая ж — перадача ў карыстанне нерухомасці Інстытута.

Канстанцін Рамішэўскі знаходзіцца пад вартай. Расследаванне працягваецца.

**Сяргей Макарэвіч**

**Інстытут культуры Беларусі**

гэта не ВНУ. Гэта ўстанова дадатковай адукацыі для дарослых. Створаны ў 2010 шляхам рэарганізацыі БДУ культуры і мастацтваў (у склад якога да гэтага ўваходзіў). З'яўляецца правапераемнікам Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, які пачаў сваю дзейнасць у 1991. Інбелкульт забяспечвае павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўку кадраў у сферы культуры. Займаецца навукова-метадычным і інфамарацыйна-аналітычным забеспячэннем дзейнасці ўстаноў адукацыі і арганізацый сферы культуры.



INBELKULT.BY

## У Мінску завялі крымінальную справу на п'яную жанчыну-кіроўцу

Следчы камітэт расследуе крымінальную справу ў дачыненні да 24-гадовай мінчанкі. Яна села за руль нападпітку і раструшчыла чужое аўто. Ёй пагражае да 7 гадоў калоніі.

Аварыя адбылася 30 мая каля 2 гадзін ночы на праспекце Незалежнасці. Дзяўчына на «БМВ Х6» выехала на сустрэчную паласу проста на «Фальксваген Джэта». 47-гадовы кіроўца Фальксвагена з цяжкімі траўмамі трапіў у бальніцу.

«Гэта першая крымінальная справа, заведзеная УСК па Мінску на жанчыну-кіроўцу па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч.4 арт. 317 КК — парушэнне ПДР асобай, якая кіравала транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў», — адзначылі ў Следчым камітэце.

«БМВ», між іншым, не надта пацярпела. А вось «Фальксваген» раструшчыла значна.

**СМ**

## Інцыдэнт на беларуска-ўкраінскай мяжы

У лістападзе мінулага года нецвярозыя памежнікі напалі там з аўтаматамі на мясцовую моладзь.

У судзе ўжо далі паказанні многія сведкі з вёскі Мілашавічы, якіх нецвярозыя памежнікі «прымушалі паважаць сябе». Адзін з вяскоўцаў паведаміў: «Начальствам сябе адчулі, дакладней, адчуў — Гураў, галоўны з іх, які старшы. Другі — больш адэкватны. Гарэлка з каньяком сваю ролю адыгралі. Ужо, канечне, ні злосці няма, ні страху — нават крыху шкада іх. Дурні!»

Вечарам 16 лістапада мінулага года начальнік першай мабільнай заставы аддзела пагранічнай службы «Прудок», якая ахоўвае беларуска-ўкраінскую мяжу, 25-гадовы старшы лейтэнант Гураў і яго падначалены, 21-гадовы старшы сяржант Рамановіч, зайшлі ў Мілашавічах у бутэрбродную. Выпівалі з нагоды нараджэння сына ў сям'і сяржанта.

Малады вясковы настаўнік Сяргей таксама тою парою зайшоў з хлопцамі ў бутэрбродную і паглядзеў у бок памежнікаў, якія сядзелі за столікам з непаўналетнімі школьніцамі. Ахоўнікам мяжы гэта не спадабалася, і яны ўсчалі слоўную перапалку. Гураў, каб паказаць, хто гаспадар становішча, выклікаў узброеную падмогу — прыехалі на машыне яго падначаленыя, прывезлі зброю.

Вакол «уазіка» памежнікаў сабралася шмат маладых вяскоўцаў. Узброеныя аўтаматамі Гураў і Рамановіч заскочылі ў бутэрбродную, чым напалохалі ўсіх, хто там яшчэ заставаўся.

Убачыўшы рэальную пагрозу, загадчыца кафэ патэлефанавала ў міліцыю. Да страляніны не дайшло. Але ў дачыненні да памежнікаў распачалі крымінальную справу.

Суд палічыў паводзіны памежнікаў недапушчальнымі. Гурава асудзілі на 3 гады калоніі за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула нанясенне шкоды дзяржаўным інтарэсам. Таксама ён вінаваты ў парушэнні грамадскага парадку з пагрозай гвалтам і зброяй. Па другім пункце прызналі вінаватым і Рамановіча. Ён адправіцца на 5 гадоў у калонію адкрытага тыпу — на так званую хімію.

**Паводле БелаПАН**

### Вышук

**Дамагаўся дзяцей**

16 красавіка з 11 да 12 гадзін удзень у сталічным мікрараёне Лошыца мужчына зайшоў у пад'езд за падлеткам, а ў ліфце дакранаўся да яго і прапаноўваў заняцца аральным сэксам. Вядома пра два такія выпадкі. Прыкметы падазраванага: на выгляд 25—30 гадоў, рост каля 176—178 см, валасы цёмныя, кароткія, на лбе — залысіны. Быў апрануты: чорная скураная куртка, цёмны швэдар з гарызантальнымі рыскамі, сінія джынсы, красоўкі з салатавымі ўстаўкамі. Пры сабе меў будаўнічы пластмасавы шпаталь. Хто што ведае, звяртайцеся на: (017) 200-60-36, (029) 356-02-02.



**Не вярнулася дадому**

21-гадовая Лізавета Алісон пайшла з дому (Мінск, вул. Рафіева, 68) 4 чэрвеня. Прыкметы: рост 175 см, вочы шэра-сінія, валасы светлыя, да плячэй. Была апранута: скураная ружовая куртка, чорныя красоўкі «Найк», чорная майка, чорныя штаны. Хто ведае месцазнаходжанне дзяўчыны, звяртайцеся на (033) 666-60-33.

### Сцісла

**Наркадылер на браніраваным «Мерсэдэсе»**

На мінулым тыдні ў Мінску затрымалі юнага наркагандляра. Уначы спецназ блакіраваў «Мерсэдэс». Унутры сядзелі пяцёра хлопцаў, 1994—1997 гадоў нараджэння. У іх канфіскавалі больш за 20 грамаў наркотыку. Каб ускрыць браніраванае шкло аўто, давялося выкарыстаць спецінструмент.

**Карова-забойца**

Выпадак адбыўся 5 чэрвеня ў вёсцы Вялікае Стахава Барысаўскага раёна. 66-гадовая жанчына ішла па абочыне, ведучы на прывязі карову. У нейкі момант карова штурхнула жанчыну, і яна павалілася, стукнуўшыся галавой аб прычэп «Фальксвагена», што ехаў насустрач. Пенсіянерка памерла на дарозе ў бальніцу.

**Расійскі мэр хаваўся ў Беларусі**

У Ваўкавыску 5 чэрвеня затрымалі мэра горада Ангарска (Іркуцкая вобласць) Уладзіміра Жукава. Ён быў абвешчаны ў расійскі федэральны вышук па абвінавачванні ў растраце бюджэтных грошай. Справа тычыцца парадку 40 тысяч даляраў. Цяпер чакае экстрадыцыі на радзіму.

**Зварыў пяльмені ў электрачайніку**

Жыхар інтэрната ў Маладзечне вырашыў паабедаць, не выходзячы з пакоя. А каб надта не напружвацца, закінуў пяльмені ў электрачайнік і прыснуў. Ды так моцна, што не пачуў паху гарэлага. Прачнуўся, калі завішчэў пажарны апавяшчальнік. Да пажару так і не дайшло, але выратавальнікі прыехалі. Гаспадара аштрафавалі.

**П'яны бяспраўнік хацеў зарэзацца**

Калі інспектар у Гродне спыніў маладога чалавека і папрасіў паказаць дакументы, кіроўца адрэагаваў нечакана. Ён выцягнуў з-пад сядзення сцізорык і стукнуў сабе ў сэрца. Міліцыянт паспеў выбіць нож, і рана аказалася неглыбокай. Прычына такога ўчынку хавалася ў тым, што два месяцы таму ў хлопца забралі правы за п'янку. Цяпер ён ізноў быў нападпітку, і яму пагражае крымінальная адказнасць і канфіскацыя машыны.

**Кватэра загарэлася ад недакурка**

Кватэра па вуліцы Панамарэнкі ў Мінску ледзь не згарэла ад суседскай нядбайнасці. У двухпакаёўцы пражываюць пенсіянерка з унучкай і праўнучкай. Калі яны ўбачылі агонь на ўласным балконе, адразу кінуліся з кватэры на вуліцу. І выклікалі пажарных. У выніку балкон згарэў, але ніхто не пацярпеў. А прычынай пажару мог стаць недапалак, які скінуў сусед зверху, не згасіўшы.

**КМ**



# За каго будуць заўзець беларусы?

**Апытанне** «НН».

**Юлія Ляшкевіч, рэкламны кансультант:** «Італія. Мне падабаецца стыль гульні гэтай каманды. Некаторыя не любяць італьянцаў, бо, забіўшы гол, яны могуць адысці ў глухую вязкую абарону, а я люблю. І яшчэ мне падабаецца, што ў самых складаных сітуацыях яны могуць дамагчыся свайго».

**Міхась Мазанік, машыніст цягніка:** «Буду заўзець за Германію. Апошнія два мундыялі для іх скончыліся не вельмі ўдала — другое і трэцяе месцы. Спадзяюся, што на гэты раз будуць першыя. І па складзе яны вельмі моцныя. Таксама буду падтрымліваць Бельгію, Паўднёвую Карэю і Алжыр, бо яны супернікі Расіі».

**Аляксей Важнік, менеджар па рабоце з кліентамі:** «Буду заўзець за Англію, таму што мне заўсёды было цікава падтрымліваць гэтых небаракаў. Яны амаль кожны чэмпіянат свету маюць адзін з найлепшых складаў, але не вырашаюць пэўныя псіхалагічныя праблемы, часта — менавіта лідараў каманды (Гаскойн, Бэкхем, цяпер — Руні?).



**Фулека**

Афіцыйны талісман чэмпіянату свету — 2014. Гэта браняносец у традыцыйных колерах Бразіліі — зялёным, жоўтым і сінім. Імя Фулека (Fuleco) утварылася ад Fu (futebol, футбол) і leco (ecologia, экалогія).

У гэтам годзе Ходжсан прывёз перспектыўную маладую каманду, якая можа пераламаць традыцыі».

**Ірына Козлік, карэспандэнт «Комсомольской правды в Беларуси»:** «За іспанцаў. І крыху за немцаў. Апошнія сем гадоў заўзею за іспанцаў. Проста супалі іх грандыёзныя поспехі і мая любоў да гэтай краіны. Люблю «Барселону», падабаецца «Рэал». Была з цікавасці на стадыёнах у Барсе і Мадрыдзе. Іспанская зборная падаецца мне ідэальнай камандай — найлепшыя футбалісты дзвюх каманд гуляюць у ёй».

**Якуб Трафімовіч, праекціроўшчык тунеляў:** «Англія — баланс маладых і ўзроставых гульцоў, пачалі гуляць больш дынамічна — гэта ўжо не той ангельскі футбол, які мы звыкліся бачыць. Бельгія — найлепшыя маладыя гульцы Еўропы, магчыма, нават свету, амаль кожны з іх — зорка свайго клуба. Уругвай — добрая лацінаамерыканская каманда, там ёсць Суарэс, які цягне «Ліверпуль» і які зможа выцягнуць Уругвай, а Кавані яму ў гэтым дапаможа!»

**Вера Перагудава, дызайнер:** «За Партугалію. Заўзею за іх з дзяцінства. Да таго ж на апошнім Еўра яны паказалі сябе някепска, выйшлі ў паўфінал».

**Віталь Цыганкоў, журналіст радыё «Свабода»:** «Прызнаюся, у мяне няма на гэтым чэмпіянаце адназначна ўлюбёнай каманды, якой я гатовы аддаць усю сваю заўзятарскую душу. Проста я не належу да той катэгорыі людзей, якія дзесяцігоддзямі заўзеюць за нейкую адну каманду, незалежна ад яе вынікаў і якасці гульні. Я хварэю за якасць і прыгажосць футбола, таму часта мае сімпатыі нараджаюцца толькі ў працэсе чэмпіянату, калі нейкая зборная ярка і прыгожа сябе праяўляе — на апошнім мундзіялі такой камандай для мяне стала Германія.

Магу сказаць, каму я не жадаю перамогі ў Бразіліі: гэта Іспанія, якая даўно ўжо мяне прытаміла сваім стылем гульні і надакучыла сваімі перамогамі. Няма за каго зачапіцца мне і ў зборнай Бразіліі — надзіва, там не відаць суперзорак (Неймар пакуль не цягне), і таму ты не разумееш, хто ж можа выклікаць тваю сімпатыю. Лакальных поспехаў зычу Паўднёвай Карэі (выхад з групы), Уругваю (паўфінал), Галандыі (традыцыйна)».

**Аляксандр Пашкевіч, гісторык, рэдактар часопіса «Arche»:** «За Боснію. Я звычайна на ўсіх спаборніцтвах сімпатызую невялікім краінам, мала вядомым сваімі спартыўнымі дасягненнямі. Перадусім, натуральна, еўрапейскім. На гэтым чэмпіянаце Боснія — акурат тое, што дадзенаму крытэрыю адпавядае».

**Наталля Рудак, настаўніца:** «Буду заўзець за Германію, бо з дзяцінства цікаўлюся нямецкай гісторыяй, культурай і спортам, шмат што ў маім жыцці звязана з гэтай краінай. Некалькі гадоў заўзею за «Баварыю» і нямецкую зборную, а прагляд спартовых перадач і чытанне артыкулаў — добрая і цікавая моўная практыка».

**Аляксандр Зімоўскі, былы старшыня «Белтэлерадыёкампаніі»:** «Заўзятар з мяне не вельмі, таму буду глядзець немцаў, у асноўным я за іх заўзею, але без фанатызму».

**Зміцер Салошкін, лекар:** «Іспанія. Падабаецца гульня каманды, якую яны паказваюць апошнія гады. Падабаецца краіна. Людзі. Тэмперамент. Жарсць павінна перамагаць разлік! А яшчэ Чылі. Абавязкова туды хачу з'ездзіць. Хаця гульняў зборнай не бачыў».

**Мікалай Халезін, кіраўнік «Свабоднага тэатра»:** «Мой прыярытэт «трох'ярусны». У першую чаргу — за Англію; у другую, традыцыйна — за Партугалію. Трэці эшалон заўзення — некалькі краін: Бразілія, Іспанія, Уругвай».

**Запісаў Зміцер Панкавец**





**«Маракана»**

Стадыён у Рыа-дэ-Жанейра, дзе 13 ліпеня пройдзе фінальная гульня мундыялю. Умяшчальнасць — 78 600 гледачоў. Доўгі час быў самым вялікім стадыёнам свету. На гэтым стадыёне ўжо праходзіў фінал чэмпіянату свету 1950 года, калі Уругвай выйграў у фінале Бразілію.

**Апытанне на nn.by**

**Хто выйграе чэмпіянат свету па футболе ў Бразіліі?**

| | | |
|---|---|---|
| Англія | 56 | 6% |
| Аргенціна | 78 | 8% |
| Бельгія | 31 | 3% |
| Бразілія | 224 | 24% |
| Галандыя | 40 | 4% |
| Германія | 192 | 21% |
| Іспанія | 164 | 18% |
| Італія | 51 | 6% |
| Уругвай | 25 | 3% |
| Францыя | 22 | 2% |
| Нехта іншы | 42 | 5% |

Усяго прагаласавала 925.

# Пяць каманд, на якія варта звярнуць увагу

Каго абавязкова **трэба разглядзець** на чэмпіянаце свету.

## 1. Бельгія

Мабыць, заўзятары са стажам добра памятаюць гульню чэмпіянату свету па футболе 1986 года. Тады ў мексіканскім Леоне ў 1/8 фіналу Бельгія ў звышдраматычнай гульні перамагла СССР — 4:3. За тую савецкую каманду гуляў наш Сяргей Алейнікаў. Тады Бельгія ў выніку спынілася на чацвёртым радку.

Кажуць, што сённяшняе пакаленне маладых бельгійцаў — самае таленавітае ў гісторыі каманды. Паглядзіце склад бельгійцаў — адны зоркі найлепшых чэмпіянатаў. Канечне, камандзе бракуе досведу, але нават галоўны трэнер нашай зборнай Георгій Кандрацьеў сказаў, што не здзівіцца, калі бельгійцы выйдуць у фінал.

## 2. Боснія

Некалькі разоў гэтая невялікая балканская каманда была за некалькі крокаў да выхада на топ-спаборніцтвы, але ў апошні момант ім дарогу пераходзілі падступныя партугальцы. Летась, нарэшце, прарвала: Боснія па праву паехала ў Бразілію. На чэмпіянат не прабіліся ні палякі, ні ўкраінцы, ні чэхі, ні славакі. Можа, у такіх варунках нехта з беларусаў і пачне сімпатызаваць крэпкай камандзе Сафета Сушыча. Плюс да ўсяго — яшчэ зусім нядаўна краіна ляжала ў руінах пасля вайны.

## 3. Кот-д'Івуар

Ад афрыканскага футбола заўсёды чакаеш нейкага прарыву. Здаецца, што восьвось афрыканцы пачнуць на роўных гуляць з еўрапейцамі і лацінаамерыканцамі. Чатыры гады таму толькі цуд не дазволіў ганцам прайсці ў паўфінал мундыялю. Сёлета чаканні ад афрыканцаў такія ж завышаныя. Здаецца, зборная Кот-д'Івуара вядучая, хай і з пастарэлым, але ўсё такім жа непараўнальным Дзідзье Драгба, найбольш здольная рашаць сур'ёзныя турнірныя задачы.

## 4. Чылі

Вы заб'яце нам — сколькі зможаце, мы заб'ём вам — колькі захочам. Выглядае, што бразільцы пачынаюць забываць гэтую імі ж і створаную ісціну. Затое такі лозунг на ўзбраенне ўзяла зборная Чылі. Іхні трэнер Хорхе Сампаоле склаціў самую бесшабашную каманду свету на сённяшні дзень. Галоў у матчах чылійцаў павінна быць шмат.

## 5. Японія

Сіндзі Кагаву і Кейсуке Хонду ведаюць усе футбольныя заўзятары. Гэтыя «самураі» (так называюць японскую зборную) прабіліся ў моцныя клубы — «Манчэстэр Юнайтэд» і «Мілан». Хай і не заўсёды гуляюць за свае каманды. Японцы вытрыманыя, дысцыплінаваныя, атлетычныя. Падаецца, яны здольныя на многае.

**ЗП**




**Эдэн Азар з «Чэлсі» — галоўная зорка бельгійцаў.**

# Каляндар чэмпіянату свету па футболе

| | Група A | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бразілія | X | | | | | | | | | |
| | Мексіка | | X | | | | | | | | |
| | Харватыя | | | X | | | | | | | |
| | Камерун | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 чэрвеня, 23:00. | Бразілія — Харватыя | 19 чэрвеня, 01:00. | Камерун — Харватыя |
| 13 чэрвеня, 19:00. | Мексіка — Камерун | 23 чэрвеня, 23:00. | Камерун — Бразілія |
| 17 чэрвеня, 22:00. | Бразілія — Мексіка | 23 чэрвеня, 23:00. | Харватыя — Мексіка |

| | Група E | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Швейцарыя | X | | | | | | | | | |
| | Францыя | | X | | | | | | | | |
| | Эквадор | | | X | | | | | | | |
| | Гандурас | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15 чэрвеня, 19:00. | Швейцарыя — Эквадор | 21 чэрвеня, 01:00. | Гандурас — Эквадор |
| 15 чэрвеня, 22:00. | Францыя — Гандурас | 25 чэрвеня, 23:00. | Гандурас — Швейцарыя |
| 20 чэрвеня, 22:00. | Швейцарыя — Францыя | 25 чэрвеня, 23:00. | Эквадор — Францыя |

| | Група B | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Іспанія | X | | | | | | | | | |
| | Чылі | | X | | | | | | | | |
| | Нідэрланды | | | X | | | | | | | |
| | Аўстралія | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 13 чэрвеня, 22:00. | Іспанія — Нідэрланды | 18 чэрвеня, 19:00. | Аўстралія — Нідэрланды |
| 14 чэрвеня, 01:00. | Чылі — Аўстралія | 23 чэрвеня, 19:00. | Аўстралія — Іспанія |
| 18 чэрвеня, 22:00. | Іспанія — Чылі | 23 чэрвеня, 19:00. | Нідэрланды — Чылі |

| | Група F | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аргенціна | X | | | | | | | | | |
| | Іран | | X | | | | | | | | |
| | Боснія | | | X | | | | | | | |
| | Нігерыя | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 16 чэрвеня, 01:00. | Аргенціна — Боснія | 22 чэрвеня, 01:00. | Нігерыя — Боснія |
| 16 чэрвеня, 22:00. | Іран — Нігерыя | 25 чэрвеня, 19:00. | Нігерыя — Аргенціна |
| 21 чэрвеня, 19:00. | Аргенціна — Іран | 25 чэрвеня, 19:00. | Боснія — Іран |

| | Група C | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Калумбія | X | | | | | | | | | |
| | Кот-д'Івуар | | X | | | | | | | | |
| | Грэцыя | | | X | | | | | | | |
| | Японія | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14 чэрвеня, 19:00. | Калумбія — Грэцыя | 20 чэрвеня, 01:00. | Японія — Грэцыя |
| 15 чэрвеня, 04:00. | Кот-д'Івуар — Японія | 24 чэрвеня, 23:00. | Японія — Калумбія |
| 19 чэрвеня, 19:00. | Калумбія — Кот-д'Івуар | 24 чэрвеня, 23:00. | Грэцыя — Кот-д'Івуар |

| | Група G | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Германія | X | | | | | | | | | |
| | Гана | | X | | | | | | | | |
| | Партугалія | | | X | | | | | | | |
| | ЗША | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 16 чэрвеня, 19:00. | Германія — Партугалія | 23 чэрвеня, 01:00. | ЗША — Партугалія |
| 17 чэрвеня, 01:00. | Гана — ЗША | 26 чэрвеня, 19:00. | ЗША — Германія |
| 21 чэрвеня, 22:00. | Германія — Гана | 26 чэрвеня, 19:00. | Партугалія — Гана |

| | Група D | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Уругвай | X | | | | | | | | | |
| | Англія | | X | | | | | | | | |
| | Коста-Рыка | | | X | | | | | | | |
| | Італія | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 14 чэрвеня, 22:00. | Уругвай — Коста-Рыка | 20 чэрвеня, 19:00. | Італія — Коста-Рыка |
| 15 чэрвеня, 01:00. | Англія — Італія | 24 чэрвеня, 19:00. | Італія — Уругвай |
| 19 чэрвеня, 22:00. | Уругвай — Англія | 24 чэрвеня, 19:00. | Коста-Рыка — Англія |

| | Група H | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бельгія | X | | | | | | | | | |
| | Расія | | X | | | | | | | | |
| | Алжыр | | | X | | | | | | | |
| | Паўднёвая Карэя | | | | X | | | | | | |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 17 чэрвеня, 19:00. | Бельгія — Алжыр | 22 чэрвеня, 22:00. | Паўднёвая Карэя — Алжыр |
| 18 чэрвеня, 01:00. | Расія — Паўднёвая Карэя | 26 чэрвеня, 23:00. | Паўднёвая Карэя — Бельгія |
| 22 чэрвеня, 19:00. | Бельгія — Расія | 26 чэрвеня, 23:00. | Алжыр — Расія |

**Скарачэнні:** **В** — выйгрышы, **Н** — нічыі, **П** — пройгрышы, **Г** — галы, **А** — ачкі, **М** — месца.



# Дасягненне найвышэйшага парадку

**6 чэрвеня споўнілася 70 гадоў ад высадкі саюзнікаў у Нармандыі. Піша Анатоль Сідарэвіч.**

Сярод мноства ганебных кніг, што выйшлі ў Беларусі, хачу выдзеліць адну. Пад рэдакцыяй Аляксандра Кавалені і Мікалая Сташкевіча яна выйшла ў 2004, калі афіцыёз рыхтаваўся да 60-годдзя перамогі над Германіяй. У 2005 кнігу выдалі на мелаванай паперы і фаліянтам па-расійску. Мае тая кніга загаловак «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)».

Не верце загалоўку, бо кантэксту ў той кнізе мінімум. Напрыклад, у параграфе 11 апавядаецца аб прыходзе Чырвонай Арміі ва ўсходнія раёны БССР восенню 1943 і зімою 1944. У гэты параграф ўстаўлена, я б сказаў, рэпліка «Праблема адкрыцця другога фронту ў Еўропе». Пра тое, што другі фронт у Еўропе адкрыты ў 1943-м, у кнізе ані слова. Далей яшчэ «лепш». Аўтары ўжо напісалі пра аперацыю «Баграціён», расказалі аб геራічнай працы людзей у савецкім тыле і нарэшце між іншым паведамілі: «Толькі 6 чэрвеня 1944 года амерыканскія, англійскія і канадскія войскі... высадзіліся на ўзбярэжжы Паўночнай Францыі ў Нармандыі...».

Цалкам у духу сталінскай гістарыяграфіі. Самае ж прыкрае, што кніга прызначана вучнёўскай моладзі.

На шчасце, у наш век кніга Кавалені і Сташкевіча не з'яўляецца адзінай крыніцай інфармацыі, а іх інтэпрэтацыя падзей Другой сусветнай вайны, хоць і ўзведзена ў ранг афіцыйнай, — не ісціна ў апошняй інстанцыі.

Мы добра ведаем, што саюзнікі істотна дапамаглі бальшавікам выкараскацца з незайздроснай сітуацыі, у якую паставілі сябе і народы Савецкага Саюза Сталін ды яго атачэнне. Так, непасрэдна перад Сталінградскай аперацыяй саюзнікі распачалі аперацыю ў Паўночнай Афрыцы. 250 тысяч італьянскіх ды нямецкіх ваякаў, узятых у палон толькі ў Тунісе, — гэта нешта ды значыць. Перад Курскай бітвай саюзнікі пачалі інтэнсіўныя бамбардзіроўкі Сіцыліі і Сардыніі, а на пяты дзень бітвы высадкай дэсанту ў Сіцыліі адкрылі немцам другі фронт у Еўропе. Гэта дало магчымасць савецкаму камандаванню дасягнуць поспеху і разгарнуць наступленне ва Украіне, а некаторым чырвоным военачальнікам — як генералу бранятанкавых войскаў Паўлу Ротмістраву — і ўратаваць жыццё (за няўдачу ў танкавай бітве пад Прохараўкай Сталін ужо занёс быў над ім сваю сякеру).

Гэтак было і ў 1944-м: за 17 дзён да аперацыі «Баграціён» саюзныя войскі высадзіліся ў Нармандыі. Менавіта гэты дэсант сталінская гістарыяграфія лічыць адкрыццём другога фонту ў Еўропе. Насамрэч для Вермахта гэта было аднаўленнем баявых дзеянняў на Заходнім фронце.

### Дзве цывілізацыі — два спосабы вядзення вайны

Савецкая і постсавецкая прапаганда спрабуе прыпісаць сабе перамогу над нямецкім нацызмам на той падставе, што СССР у гэтай вайне панёс найбольшыя страты. Хісткі аргумент. Вялікая частка стратаў выклікана людажэрчай палітыкай Сталіна і яго атачэння (чаго варты для Чырвонай Арміі толькі адзін 1937-ы), спробамі перахітрыць і Гітлера, і лідараў Брытаніі ды Францыі, ваенна-тэхнічнай адсталасцю. Нехта сказаў, што гераізм патрабуецца там, дзе няма кампетэнтнага кіраўніцтва і належных сродкаў вядзення вайны. У першыя тыдні Чырвоная Армія страціла сваю перавагу над Германіяй у гарматах, танках, самалётах. У чым заставалася бясспрэчная перавага СССР, дык у жывой сіле. І там, дзе не хапала вайсковага майстэрства, належнай тэхнікі, — там для выканання пастаўленай задачы не шкадавалі людскіх жыццяў. У літаратуры можна сустрэць адносіну 1:10. Гэта значыць, што да аднаго забітага нямецкага жаўнера прыпадала 10 савецкіх.



**Брытанскі ветэран вайны ў заходняй Францыі, падчас святкавання 70-годдзя высадкі ў Нармандыі.**

Вельмі важна паглядзець, колькі савецкіх салдатаў і матросаў паклалі свае жыцці за адзін квадратны кіламетр вызваленай сушы ды марской прасторы і колькі — амерыканскія, брытанскія, французскія, канадскія...

Такая ўжо прырода еўрапейскай цывілізацыі і дэмакратыі. У Старажытнай Грэцыі стратэгаў каралі за тое, што належным чынам не былі пахаваныя воіны. Еўраатлантычная цывілізацыя і дэмакратыя вядуць свой радавод з Грэцыі. І амерыканскія, і брытанскія, і канадскія ўрады і штабы працавалі пад пільным наглядам сваіх парламентаў і стараліся пазбягаць неапраўдных і празмерных ахвяраў. Генералы змагарнай Францыі, хоць і не мелі над сабою парламенцкага кантролю, былі таксама выхаваныя ў духу павагі да чалавечага жыцця. Заходнюю статыстыку ваенных стратаў у параўнанні з савецкай можна лічыць бездакорнай.

Трэба было б супаставіць, колькі незваротных стратаў (у тым ліку палонныя) панесла Германія ў Атлантычным акіяне, у паўночных морах і ў Заходняй Еўропе і колькі — на Усходнім фронце. Савецкай статыстыцы давяраць нельга. Чаго толькі вартыя лічбы 9, 20, 26 і 30. Столькі мільёнаў людзей, паводле афіцыёзу, страціў СССР у вайне. Лічба ўзрастала па меры таго, як падзеі вайны ўсё далей адыходзілі ў мінулае. Найбольш дакладныя лічбы нямецкіх стратаў ёсць у нямецкіх архівах: мусіць, не трэба казаць, што такое нямецкая дакладнасць.

### Пераадоленне

Зноў і зноў трэба казаць, што эканоміка Злучаных Штатаў, Брытаніі, яе дамініёнаў і калоній і блізка не была гэтак мілітарызаваная, як эканомікі СССР, Германіі і Японіі. Пры гэтым трэба адзначыць, што Савецкі Саюз пераўзыходзіў Нямеччыну па ўсіх відах узбраенняў у разы. І што ад савецкай артылерыі, авіяцыі і танкавых войскаў (асабліва пасля бітваў пад Дубнам і Сянном) засталіся вартыя жалю астаткі, — у тым віна перш за ўсё Сталіна, наркама абароны Сямёна Цімашэнкі і начальніка генеральнага штаба Георгія Жукава. Трэба адзначыць і тое, што ў ЗША былі моцныя ізаляцыяніцкія настроі. І хто ведае, ці ўступілі б Штаты ў вайну, калі б не японцы, не Пёрл-Харбар. А да гэтага Брытаніі трэба было адной адбіваць напады нямецкай авіяцыі і шукаць сродкі супраць нямецкіх і італьянскіх падводных лодак і надводных караблёў.

Уступіўшы ў вайну з Японіяй і стаўшы саюзнікам СССР у антыгітлераўскай кааліцыі, Злучаныя Штаты, а таксама брытанская карона мусілі весці вайну на ўсіх акіянах, а для гэтага патрабаваліся магутны наводны і падводны флот, цяжкая авіяцыя, знішчальнікі, транспартныя самалёты і ўсё, што для іх патрэбна. Для вядзення ваенных дзеянняў на сушы неабходныя былі танкі, аўтамабілі, цягачы, паходныя майстэрні і электрастанцыі, зброя і сродкі абароны для вайскоўцаў. А яшчэ — харчаванне, сродкі гігіены, медыкаменты, палявыя шпіталі і шмат чаго іншага (не забудзьма таксама пра кінаперасоўкі).

Магчыма, заходнія саюзнікі нарасцілі б свой мілітарны патэнцыял хутчэй, калі б не СССР. Краіна, якая мела ў сваіх нетрах усю табліцу Мендзялеева, сярэднеазіяцкія латыфундыі і вялікія сельскагаспадарчыя ўгоддзі ў Сібіры, Паволжы і інш. рэгіёнах, прасіла ў саюзнікаў не толькі тэхніку — нават медзь і бавоўну, коўдры, абутак і харчы. І ўсё ж да сярэдзіны 1943 г. амерыканцы і брытанская карона ўжо даволі ўпэўнена пачуваліся на моры, у паветры і на сушы.

### Падрыхтоўка

Нармандская аперацыя саюзнікаў мела кодавую назву «Аверлорд», высадка паветранага і марскога дэсанту — «Нептун».

Своеасаблівай рэпетыцыяй аперацыі «Оверлорд» была высадка саюзніцкага дэсанту на Сіцыліі і Апенінскім паўвостраве. Але славутым і паспяховым аперацыям у Міжземным моры папярэднічала бітва за прымором французскі горад Дзьеп у жніўні 1942-га. Брытанска-канадскія войскі панеслі тады цяжкія страты. Урокі гэтай драматычнай бітвы не маглі не ўлічвацца пры падрыхтоўцы аперацыі «Аверлорд». У Вялікабрытанію былі перакінутыя дзве амерыканскія паветрана-дэсантныя дывізіі. Тут амерыканцы разам з саюзнікамі адпрацоўвалі тактыку высадкі паветранага дэсанту. Паралельна адпрацоўвалася і тактыка высадкі марскога дэсанту. Інтэнсіўныя вучэнні, якія не абышліся без людскіх ахвяр, доўжыліся тры месяцы.

Нямецкая разведка не змагла даведацца, дзе ж будуць высаджвацца праціўнікі. Па-першае, з 10 раёнаў, у якіх праводзілася навучанне дэсантнікаў, толькі адзін сваім ландшафтам нагадваў нармандскае ўзбярэжжа. Падругое, высадка паветранага дэсанту планавалася ўначы, таму і вучэнні праводзіліся, як правіла, не ўдзень. Па-трэцяе, саюзнікі запускалі дэзу і налётамі авіяцыі давалі зразумець, што пераправа будзе ажыццяўляцца ў раёне Кале—Булонь. У гэта паверыў адзін са стваральнікаў Атлантычнага валу, «ліс пустыні» фельдмаршал Эрвін Ромель. Яго думку падзяляў галоўнакамандуючы нямецкіх войскаў на Заходнім фронце фельдмаршал Герд фон Рундштэт, бо праліў Па-дэ-Кале значна вузейшы за Ла-Манш. Берлін, хоць і меў на ўвазе нармандскі варыянт, прыняў меркаванне маршалаў да ведама. У Берліне, акрамя таго, лічылі, што заходнія аліянты могуць высадзіцца і ў Нарвегіі. І Гітлер трымаў там 13 дывізій.

### Дата «R» і D-day

У красавіку 1944-га Уінстан Чэрчыль паведамляў Сталіну, што ў адпаведнасці з дамоўленасцю, дасягнутай паміж кіраўнікамі ўрадаў Злучанага Каралеўства, Злучаных Штатаў і Савецкага Саюза ў Тэгеране, перапраўа адбудзецца каля даты «R». Гэтак шыфравалася 31 мая 1944 г. Дапускалася адступленне ад гэтай даты ў сувязі з умовамі надвор'я. Апошняе ж слова належала генералу Дуайту Эйзенхаўэру, на якім ляжала адказнасць за правядзенне аперацыі. 8 мая, калі ў Італіі яшчэ ішла бітва пад Монтэ-Касіна, роўна за год да капітуляцыі Германіі, ён вызначыў, што высадка паветранага і марскога дэсанту адбудзецца ў дзень D (D-day). Так было зашыфравана 5 чэрвеня. Тым часам саюзнікі, у шэрагах якіх змагаліся і беларускія хлопцы, 4 чэрвеня ўзялі Рым. Сталін віншаваў Франкліна Рузвельта «з вялікай перамогай».

**Краіна, якая мела ў сваіх нетрах усю табліцу Мендзялеева, гіганцкія сельскагаспадарчыя ўгоддзі, прасіла ў саюзнікаў медзь і бавоўну, коўдры, абутак і харчы**

Планы планамі, а мора морам. Мора не дало саюзнікам пачаць аперацыю ў D-day. Яе давялося адкласці на суткі.

Такой аперацыі не ведала гісторыя. З боку саюзнікаў у ёй удзельнічала 150 тыс. чалавек. За 9 гадзін да пачатку аперацыі пачалася інтэнсіўная бамбёжка нямецкіх пазіцый. Затым пасля поўначы ў самалёты пагрузіліся 24 тыс. брытанскіх, амерыканскіх, канадскіх і французскіх парашутыстаў (13100 чалавек былі амерыканцамі). Калі стрэлкі гадзіннікаў паказалі 6:30, пачалася высадка марскога дэсанту, а ўдзень на планерах высадзіліся яшчэ 3937 салдатаў.

Каб зразумець, што ўяўляў сабою флот заходніх аліянтаў, працытую ліст Чэрчыля да Сталіна ад 14 чэрвеня: «Горад караблёў расцягнуўся ўздоўж узбярэжжа амаль на 50 міль».

Да вечара 6 жніўня саюзнікі захапілі тры плацдармы, на якіх замацаваліся 5 пяхотных і 3 паветрана-дэсантныя дывізіі, а таксама бранятанкавая брыгада. Саюзнікі прайшлі ўглыб французскай тэрыторыі ад 3 да 5 кіламетраў.

Ведама, раптоўнасць заўсёды прыносіць псіхалагічную перавагу нападнікам, але ўсё ж нямецкае войска аказала годны супраціў. Быў момант, калі амерыканскі генерал Амар Брэдлі ледзь не даў загад адмяніць высадку дэсанту на тым участку, за які ён адказваў. У першы дзень аперацыі «Аверлорд» немцы вывелі са строю 6603 амерыканцаў і каля чатырох тысяч брытанцаў і канадцаў. Быў забіты, паранены ці прапаў без вesткі кожны 15-ты ўдзельнік аперацыі. Страты зменшыліся ў наступныя дні.

Што дзіўна, дык тое, што ўсе дзеянні праціўніка ў паветры, на моры, а потым і на сушы маршал Рундштэт успрыняў спачатку як дэманстрацыю з мэтаю адцягнуць увагу немцаў ад раёна Кале—Булонь і таму не дазваляў перакінуць частку войска на нармандскае ўзбярэжжа.

11 чэрвеня Сталін пісаў Чэрчылю: «Як відаць, дэсант, задуманы ў грандыёзных маштабах, удаўся цалкам. Я і мае калегі не можам не прызнаць, што гісторыя не ведае іншага падобнага пачынання з гледзішча яго маштабаў, шырокай задумы і майстэрства выканання. Як вядома, Напалеон у свой час ганебна правяліўся са сваім планам фарсіраваць Ла-Манш. Істэрык Гітлер, які два гады хваліўся, што ён здзейсніць фарсіраванне Ла-Манша, не адважыўся зрабіць нават намёку на спробу ажыццявіць сваю пагрозу. Толькі нашым саюзнікам удалося з гонарам здзейсніць грандыёзны план фарсіравання Ла-Манша. Гісторыя адзначыць гэтую справу як дасягненне найвышэйшага парадку».

* * *

Сталін не быў бы Сталіным, бальшавікі не былі б бальшавікамі, калі б не перакруцілі гісторыю і супольную з саюзнікамі перамогу над нацысцкай Германіяй не пачалі амаль цалкам прыпісваць сабе, згадваючы пра заслугі братоў па зброі як пра нешта няважнае. Навучальная кніга «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны)» паказвае, што паслядоўнікі Сталіна працягваюць яго справу і ў Рэспубліцы Беларусь.

Мы ж уявіць сабе не можам, як разгортвалася б наступальная аперацыя Чырвонай Арміі ў Беларусі, калі б не высадка саюзнага дэсанту ў Нармандыі, калі б не наступ саюзнікаў (у дадатак да італьянскага тэатру ваенных дзеянняў) на Заходнім фронце. Адно можам сказаць пэўна: Чырвонай Арміі ўдалося дасягнуць поспеху ў Беларусі і таму, што «дасягненне найвышэйшага парадку» было здзейснена ў Нармандыі.

# Аляксей Шэін: Да цудаў трэба рыхтавацца

У Мінску пачаліся яшчэ адны курсы беларускай мовы — «Моваведа». Іх заснаваў філолаг, хрысціянін і шматдзетны бацька Аляксей Шэін. Чаму **моўныя курсы** становяцца масавай з'явай?



**Аляксей Шэін**
нар. у 1976. Былы сустаршыня БХД, філолаг, заснавальнік беларускамоўных курсаў «Моваведа», бацька траіх сыноў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксей Шэін:** На гэта паўплывала агульная палітычная сітуацыя. Выбары 2010 пазбавілі моладзь ілюзій. Відавочна, што чароўным чынам, аднамомантна, сітуацыю не зменіш. Цуды заўсёды прыходзяць на натуральны грунт.

Сёння ў Беларусі вельмі важная арганічная культурніцкая праца. І людзі гэта адчуваюць. Змяншаецца колькасць удзельнікаў нейкіх вулічных акцый, але ў той жа час павялічваецца колькасць удзельнікаў самых розных мерапрыемстваў, звязаных з беларускай культурай.

**«НН»: А словы кіраўніка дзяржавы пра неабходнасць не забываць мову паспрыяюць яе папулярызацыі ў грамадстве?**

**АШ:** Спрыяць папулярызацыі беларускай мовы Лукашэнка наўрад ці будзе. Ён — не ідэйны чалавек, ён проста падпарадкоўвае сваю палітыку жаданню большасці. І пакуль большасць не пачне патрабаваць папулярызацыі беларускай мовы, улада нічога не будзе рабіць. Так што разлічваць трэба толькі на сябе.

**«НН»: Вам не падаецца, што Лукашэнка зразумеў, што мова і беларуская культура ёсць гарантам незалежнасці, якую ён баіцца згубіць?**

**АШ:** Я думаю, ён гэта ацаніў. І таму, зыходзячы з украінскай рэчаіснасці, улада не будзе чыніць перашкодаў для папулярызацыі культуры і мовы, але прамой дзяржаўнай ініцыятывы не будзе.

**«НН»: Украінскія падзеі так моцна на яго паўплывалі?**

**АШ:** Канечне, асабліва заявы расейскага кіраўніцтва пра тое, што кожны расейскамоўны чалавек — гэта іх суайчыннік.

**«НН»: Вы былі сустаршынёй БХД. Чаму сышлі з палітыкі?**

**АШ:** Я чалавек веруючы, малюся за Беларусь. І ў пэўны момант, аднойчы падчас малітвы, я вельмі выразна адчуў, што Бог ад мяне хоча чагосьці іншага. Не столькі палітычнай, колькі дзейнасці, звязанай з культурай і асветай. Я змагаўся з сабой, бо грамадская дзейнасць вельмі атракцыйная — прынамсі, для мяне, — і цяжка было сысці. Але я гэта зрабіў, сышоў з пасады сустаршыні БХД.

**«НН»: І чым займаецеся зараз?**

**АШ:** Акрамя таго, што вяду аднойменныя курсы беларускай мовы «Моваведа», я напісаў кнігу «Сем камянёў» — гэта прыгодніцкі раман-казка для школьнікаў. (Беларускай літаратуры сёння не хапае твораў для падлеткаў.) Пакуль даў пачытаць толькі сябрам, каб атрымаць каментары перад друкам.

Акрамя гэтага, рыхтуемся да вялікага праекта: у 2017 годзе будзе 500 год друкаванай беларускай Бібліі. Зараз рыхтуецца пераклад Бібліі з моваў арыгінала, а таксама вялікая праграма святкаванняў юбілею на ўсебеларускім узроўні.

**«НН»: Ці хацелі б Вы, каб Вашыя дзеці таксама прайшлі праз грамадска-палітычнае жыццё?**

**АШ:** Задача бацькоў пабачыць, што Бог уклаў у кожнае асобнае дзіця і дапамагчы рэалізаваць гэты талент. Дзяцей трэба адпускаць. А ў Беларусі бацькі да апошняга трымаюць дзяцей побач і хочуць вызначыць іх лёс. Такое вось беларускае таталітарнае бацькоўства. А яшчэ наша бяда ў тым, што вялікая колькасць людзей жыве не сваім жыццём. Яны мараць пра адно, а жывуць міма свайго паклікання. Ад гэтага людзі нешчаслівыя.

**«НН»: Адыходзячы ад палітыкі і веры, хацелася б паразмаўляць пра вашую шматдзетную сям'ю.**

**АШ:** У нас трое дзетак, і ўсе хлопцы: Якуб, Янка і Сымон. Як па мне, дык гэта яшчэ не шмат. Мая жонка Наталля — кандыдат філалагічных навук. І адной з грунтоўных рэчаў, якую яна паспела зрабіць, пакуль не стала займацца малымі дзецьмі, быў пераклад на беларускую мову «Катэхізіса» Сымона Буднага і прадмоваў Скарыны да кніг ягонай «Бібліі».

**«НН»: У вас з жонкай было «каханне з першага погляду»?**

**АШ:** Мы ў адзін час вучыліся на філфаку БДУ, пасля былі ў адной царкве. Так вось былі знаёмыя 10 год і «нічога такога» я не адчуваў, але ў адзін цудоўны момант быццам убачыў яе ўпершыню: убачыў і закахаўся. Так што каханне далёка не з першага погляду.

**«НН»: Вы выхоўваеце дзетак у беларускіх ды хрысціянскіх традыцыях?**

**АШ:** Выхоўваем па-беларуску. І, больш за тое, маем намер вучыць іх пасля дома. Бо і я, і жонка — выкладчыкі.

**«НН»: А чаму не хочаце аддаць іх дзяржаве на выхаванне?**

**АШ:** Перадусім, хацелася б, каб у малых было добрае, клапатлівае, хрысціянскае асяроддзе. Бо і ў нашай царкве ёсць людзі, якія вучаць дзетак дома. Усе ж мы ведаем, з якімі ідэямі і словамі прыходзяць часам дзеткі з дзіцячага садка.

**«НН»: Але ж Вы не зможаце ізаляваць іх ад рэчаіснасці.**

**АШ:** Вядома, але пакладзём добры беларускі і маральны падмурак. Дый не хацелася б сутыкацца з дзяржаўнай ідэалогіяй, з іх піянерамі і БРСМ.

**«НН»: Відаць, Вы самі ў дзяцінстве «сутыкаліся з ідэалогіяй».**

**АШ:** Я жыў і рос у Гародні, там ішло польскае тэлебачанне, якое ідэалагічна вельмі моцна адрознівалася ад савецкага. Чуць пасыл, што Ленін — не бог і яму нельга пакланяцца, ужо было чымсьці неверагодным. А ўвогуле, на людзей майго часу моцна паўплывала Перабудова. Нам пашчасціла адчуць на сабе час вялікіх зменаў.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Курсы «Моваведа»**

праходзяць штачацвер у канферэнц-зале цэнтра «Велеа» (вул. Скарыны, 12). Пачатак а 19-й. Галоўная задача «Моваведы» — вывесці мову з пасіву ў актыў, пераканаць людзей не саромецца гаварыць. Бо часта беларусы кажуць, што не ведаюць беларускай мовы, а гэта не так, лічыць арганізатар.

**Музыка**

## За дыск J:морс даюць 15 мільёнаў

Гурт J:морс ладзіць дабрачынны аўкцыён, на якім прадае **ўнікальны дыск** «Фотаздымкі 2003—2014».

У альбом увайшлі рэдкія і нявыдадзеныя песні гурту. Сярод іх — тры беларускамоўныя: уласна, «Фотаздымкі», «Піва», якая не выдавалася на альбомах J:Морс, а таксама невядомая версія кампазыцыі «Адліга». Гурт выпусціў толькі адзін асобнік дыска, набыць які можна выключна праз інтэрнэт-аўкцыён. Усе грошы, атрыманыя за дыск, будуць пералічаныя на лекі і дэльфінатэрапію для 5-гадовага Стася Кірылава, які нарадзіўся са множнымі паталогіямі.

Таргі на аўкцыёне будуць праходзіць да 12 чэрвеня. На момант выхаду артыкула максімальная стаўка склала 15 млн рублёў.



**Кірыла Хілько**

## Андрэй Макарэвіч даў згоду на выкананне сваіх песень па-беларуску

Лідару гурту «Машина времени» прыйшліся даспадобы пераклады яго песень, якія зрабіў беларускі музыка Юры Несцярэнка. Музыкі сустракаліся асабіста. «Вялікая папулярнасць Макарэвіча ў Беларусі не выпадковая. У яго ж ёсць генетычныя прывязкі да Беларусі і па бацькавай, і па матчынай лініі. І ён усур'ёз зацікавіўся сваімі каранямі, прыязджаў у вёску Паўловічы на Бярозаўшчыне, адкуль паходзіць яго род», — распавёў Юры Несцярэнка. Былі пераасэнсаваныя «Снег», «Не дай мне ўпасці», «Дзень гневу», «Зоркам не трэба метро» ды іншыя творы.

Пераклады Макарэвіча па-беларуску ўвайшлі ў «Анталогію перакладу расейскай рок-паэзіі», якая пабачыла свет у другім нумары часопіса «Дзеяслоў».

**Tuzin.fm**

**Рэпліка**

## Дзе кнігі пераможцаў прэміі Гедройца?

Праз пару дзён пасля ўручэння прэміі я прайшлася па кніжных крамах і спытала ў кожнай, ці магу я тут купіць кнігі, якія ўвайшлі ў шорт-ліст прэміі Гедройца. Паўсюль, акрамя кнігарні «Логвінаў», у адказ перапытвалі: «Якога прэмії?» Нават тройка лідараў — «Хвілінка» Бабкова, «Шклатара» Клінава і «Багун» Мудрова — так і не знайшлася ні ў адной з названых мной дзяржаўных кніжных крамаў. З усяго шорт-ліста ў дзяржаўных крамах я знайшла толькі кнігу Алены Брава «Дараванне» (крама «Веды») і кнігу Людмілы Рублеўскай «Ночы на Плябанскіх млынах» («Веды» і Цэнтральная кнігарня). У «Логвінава» ж, дзе раманы Клінава і Бабкова красаваліся на ганаровых месцах, не аказалася кнігі Мудрова, выдадзенай невядомым накладам ў полацкім выдавецтве: кніга, якая заняла трэцяе месца, ужо (або першапачаткова?) з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю.

**Лідзія Міхеева, journalby.com**



**Фотафакт**

**Сучасная экалагічная скульптура ў Браславе: побач з аўтавакзалам паставілі драўляных кароў у натуральную велічыню. Зробленыя яны з веданнем анатоміі і павадак скаціны. Зрабілі іх мясцовыя настаўнікі працы. Сабекошт скульптуры — усяго 500 тысяч рублёў.**

# Суд і Любоў

Зміцер Дашкевіч. Эсэ.

— Ну, давай, што там у цябе з рэчаў, — прамовіў амапаўскі сяржант з усмешкаю, адсунуў зэдлік ад стала і ўсеўся. — Стаўляй, — скамандаваў, ляпнуўшы далонню па стале.

Я паставіў на стол заплечнік.

— Выкладвай усё з кішэняў.

Я дастаў насоўку, ключы, два тэлефоны.

— Дай жонцы набяру, — запытаў я, кладучы ля заплечніка насоўку з ключамі, але тэлефоны трымаючы яшчэ пры сабе.

— Дык ты ўжо набіраў у машыне.

— Я ж набіраў сказаць, што еду ў райаддзел, а цяпер трэба сказаць, што ўжо даездзіўся — дахаты ж не вярнуся.

— Чаму гэта ты не вернешся? — здзівіўся мой куратар, гледзячы на мяне знізу ўверх і прыкінуўся дурнем: — Зараз разбяруцца тут — і пойдзеш дахаты.

— Ды супакойся ты, — паспрабаваў я ўсміхнуцца, — якое «дахаты», калі ты ўжо мае рэчы апісваеш, — і папрасіў яшчэ раз: — Дай набяру, каб жонка не хвалявалася.

— Пакуль пакладзі, а потым ты ў начальства запытаеш, — амапавец матлянуў галавою ў бок «дзяжуркі», побач з якою мы знаходзіліся, — і патэлефануеш.

— Ага, патэлефануеш там ужо, — другі раз хмыкнуў я на другую спробу камісара прыкінуцца дурачком, але ўжо нічога не тлумачыў — проста паклаў тэлефоны на стол.

Амапавец пачаў даставаць з пляцака рэчы: ноўт, дзве падзарадкі, газеты «Наша Ніва», шчотку для абутку, тэчку з праектамі мэблі, два нататнікі, два каталогі фурнітуры, плашчовую курташонку, а завершыў працэдуру экспрапрыяцыі літровы слоік мёду.

— Ё-маё, — здзівіўся экспрапрыятар, — ты адкуль гэта?

— З працы.

— А мёд навошта?

— Заробак атрымаў, — усміхнуўся я.

— Заробак?

— Ну.

— Ты што, за ежу працуеш?

— Сёння за ежу.

— А чым займаешся?

— Мэбляй.

— Якой?

— З ДСП, — я паляпаў пальцамі па загрувашчаным маім багаццем стале, — вось такой, да прыкладу.

— Ну, я таксама быў неяк стол зрабіў, — з гонарам прамовіў амапавец. — Замовіў распіл, кромку паклеіў прасам — і ўсё. Калі ў краме стол такі стаіць за паўтара мільёна, дык я зрабіў за мільён.

— Дык правільна, — ухваліў я канструктарскае эга суразмоўцы, — усё для сям'і.

— Канечне, — задаволена згадзіўся той ды яшчэ і сам сябе пахваліў: — Рукі ёсць, галава ёсць — чаму б не зрабіць?




9 чэрвеня ў Зміцра і Насты Дашкевічаў нарадзілася дачка — 2650 г і 48 см.

«Прыгожанькая-прыгожанькая! — расказвае шчаслівы тата. — Яна спала, а я яе пальчыкам за далоньку, а яна раз — і аддзёрнула кулачочак! А я ёй галоўку паказытаў беленькую, і яна расплюшчыла чароўненькія блакітныя (мне так здалося) вочкі!. А загадчыца кажа: «Да таты падобна!» А я: «Вы што, разбіраецеся, на каго яна ўжо падобна?» «Канечне, — адказвае, — адразу відаць!» Татава дачурачка, татава!»

Роды адбыліся ў першым раддоме Мінска.

Імені малой яшчэ не прыдумалі. А хрышчэнне адбудзецца, калі яна будзе ўжо вялікай. Зміцер і Наста — пратэстанты, а ў іх малых дзяцей проста пасвячаюць і дабраслаўляюць. Хрысціць жа людзей толькі пасля 14 гадоў, калі яны ўжо дарослыя і могуць самі прыняць усвядомленае рашэнне пра хрост.

## Ці разумееце вы, што прадаяце душу Сатане?

— Дык я ўвогуле здзіўляюся, што чалавек з галавою і рукамі робіць у АМАПе? — з усмешкаю, але пад'ялдыкнуў я.

Амапавец праявіў найлепшыя навыкі ідэалагічнай апрацоўкі і жарт мой не зразумеў, а мо, што таксама з'яўляецца прадуктам генна-ідэалагічнай інжынерыі, трэці раз прыкінуўся дурнем. Пачаў разграбаць мае рэчы. Скамандаваў:

— Добра, давай перапісваць.

— Давай, — хітнуў галавой я, — мо толькі насоўку забяру. І курташонку, — дадаў, падумаўшы.

— Канечне, бяры, — быццам бы нават абрадваўся ён, — мы ж з табою сябры.

— Ага, сябры, — хмыкнуў я, але не пярэчыў: усё ж сярод нелюдзей у формах павінны недзе быць і людзі. Прынамсі я некалькі людзей сярод іхняе зграі бачыў. Такое здараецца перадусім у Заходняй Беларусі — там, дзе камуністычны тэрор выпальваў з Божых тварэнняў сумленне на 20 гадоў меней.

Начальнік з дзяжуркі патэлефанаваць не дазволіў. Але завёў у апартаменты — суцэльна бетонны стакан 2 на 2. Бетоннаю была нават лава, што быццам прызба йшла ўздоўж двух сценаў. Убачыць такое я не чакаў: бетонныя лавы — гэта анахранізм нават для Беларусі. Тым больш не чакаў у Першамайскім райаддзеле — самым новым райаддзеле сталіцы, у якім, як кажуць людзі дасведчаныя, у начальніка ёсць асабісты душ і асабісты пакой адпачынку.

Толькі вы не абурайцеся, што дзяржава абірае падаткаплатнікаў, будуючы новыя гмахі карным структурам. Зусім не, Першамайскі райаддзел адчыніўся ў былой школе. А вось гэта якраз-такі па-беларуску — каму трэба тыя школы ў самай сацыяльнай і самай стабільнай дзяржаве нашай планеты? Суды — у ліцэях, міліцыя — у школах, калоніі — у кляштарах. Беларуская дзяржава ў XXI стагоддзі спраўдзіла-такі адвечную мару камуністаў: «Мы наш, мы новый мир построим» — новы свет, з карнымі райаддзеламі замест школаў, хаця і ў асобна ўзятай краіне, але пабудаваны.

Зайшоўшы ў бетонны стакан, я адразу зразумеў сваю самую сур'ёзную памылку: я не папрасіўся адразу ў прыбіральню. А хто павядзе мяне цяпер? Едкі смурод мачы з пачарнелых вуглоў сведчыў аб тым, што ніхто, а калі хто, дык вельмі няхутка. Але што рабіць, я пачаў ляпаць. І, о дзіва, да маёй клеткі падышлі.

— Што трэба?! — раўнула пыса ў невялікае дзвярное акенца, засцекленае бранебойным шклапластыкам.

— Старшой, — перайшоў я на ўпрошвальнае сапрана, — завядзі «па-маленькаму».

На яшчэ большае маё здзіўленне тут жа адчыніліся дзверы. Без словаў. Я радасна прамовіў «дзякуй» і пашыбаваў у прыбіральню.

Прыбіральня — такая ж камера ў канцы кароткага калідорчыку. Хто ведае, мо ўсе гэтыя камеры і былі прыбіральнямі ў мінулым, школьным жыцці гэтага будынка. Пляскаты ўнітаз убудаваны на подыуме вышынёй у дзве прыступкі — адразу бачна, рабілі людзі з мастацкім густам. Я падняўся, смаркаты старшынка стаў проста насупраць вечна адчыненых дзвярэй. Мо яму і самому радасна назіраць за працэсам, а мо проста такая вар'яцкая праца, але што зробіш: сам выбраў. Як бы там ні было, чужы кантроль за такой асабістай працэдураю даўно мяне не напружвае.

## Суды — у ліцэях, міліцыя — у школах, калоніі — у кляштарах

— А што, умывальніка няма?

— Які табе ўмывальнік?

— Ну, рукі памыць, вады сербануць.

— Дома трэба мыцца, а не тут, — гаўкнуў начальствуючы, замыкаючы за мною дзверы камеры.

Гэта правільна: навошта рабам умывальнік.

Каб хоць трошку паспаць, трэба было добра стаміцца — як мага болей пахадзіць. І я хадзіў. Я хадзіў ад аднаго засцанага кута да другога (ясна, што не ўсіх так ласкава згаджаюцца завесці на мясцовую піраміду, як згадзіліся мяне) і думаў. Ці лепш сказаць, я спрабаваў думаць — думкі сутаргава кідаліся з аднаго паўшар'я ў другое. І самаю неспакойнаю была думка пра тое, што я тут раблю.

«Што я тут раблю, год за годам? Калі гэта скончыцца? Год? Дзесяць? Дваццаць? — колькі яшчэ трэба гэтаму рэжыму, каб захлынуцца? Ё ты маё, ШТО я тут раблю?! А заўтра мы з жоначкаю планавалі на «ўльтрагук» — і так хочацца даведацца, хто там?.. Хлопчык, павінен быць хлопчык — нашчадак! Барацьбіт, катораму пашчасціць жыць у той краіне, пра якую мы столькі год мроім. За якую мы столькі год змагаемся...»

На шчасце, стома прыйшла хутка — не так ад хады замучыўся, як памутнеў ад камернае ўрынатэрапіі. Гэта была дакладная прыкмета таго, што ёсць шанец заснуць, і я вырашыў уладкоўвацца.

**Зміцер Дашкевіч**

лідар «Маладога фронту», палітвязень. Быў арыштаваны за дзень да прэзідэнцкіх выбараў 2010 і амаль тры гады правёў у турме. Пасля выхаду з няволі выдаў кнігу турэмных апавяданняў «Чарвяк». Перад хакейным чэмпіянатам быў прэвентыўна арыштаваны на 25 сутак.

Я накінуў капялюш і зашморгнуў тонкую курташоначку, пашкадаваўшы, што раніцою не паслухаў Настачку і не апрануў цяплейшай. «А хто ж ведаў? — апраўдаў я сам сябе. — Я ж на працу ішоў, а не на несанкцыянаваны мітынг». Памацаў рукою «ложак» — ледзянюшчы, гад. Але выбару не было. Скурчыўся, паклаўшы пад галаву насоўку. «Дзякуй Богу, што хоць насоўку прыхапіў, — мільганула думка перад сном, — без падушкі чарапушцы маёй было б зусім кепска».

Дзякуючы знясіленасці заснуў, але ідылія цягнулася нядоўга: бетон гэта, усё ж, бетон. Калі на ім ляжыш, дошкі здаюцца недасягальнаю мараю і самым вялікім у жыцці жаданнем. І калі на дошках нават зімой можна вырубіцца ажно на гадзіну, дык на бетоне больш чым на 30 хвілін не вырубішся ніяк. І гэта калі яшчэ ўдасца вырубіцца. Бо калі ты кладзешся на ложак з цэменту, ты адчуваеш кожнай клеткай, як бетон, атам за атамам, забірае тваё цяпло — холад пранікае ў цябе павольна, але настойліва; ён мэтаскіравана ідзе па тваёй скуры, нахабна завалодвае мышачнай масай, па-зладзейску накідваецца на твае косткі і вантробы — і ты падхопліваешся, клацаючы зубамі.

О, не даць дубу на такім ложку — цэлая школа і свая сістэма хітрыкаў. Так, калі на табе дзве адзёжкі, адну здымі і ёю накрыйся — гэтак, як жалезна сведчыць досвед многіх пакаленняў арыштантаў, значна цяплей. Чаму? Не ведаю. Няхай распішуць фізіёлагі. Мо таму так адбываецца, што пад накінутаю на цела адзёжкаю ўтвараецца паветраная падушка, якая трошку запавольвае астыванне. Арыштанцкая народнасць на выдумкі хітрая, і пасля першых двух пад'ёмаў на зарадку я прыдумаў яшчэ адзін хітрык. Дастаў з красовак сцелькі і, укладаючыся, адну паклаў пад правае сцягно, а другую — пад правае плячо. Мяркую, менавіта гэты ход дазволіў мне вырваць з лап бетоннай ночы дзве гадзіны сну.

Гадзіне а 8-й пачаўся рух на калідоры. Па-зэкаўску — «двіжуха». Неяк адзін стрыжаны запытаў мяне: «Калі ты такі граматны, дык як будзе па-беларуску «двіжуха»?» «Відаць, — адказаў я пачасаўшы патыліцу, — «руханіна». Радасны смех сукамернікаў адобрыў мой пераклад. Дык таму, калі вам будзе заўгодна, пачалася руханіна, і неўзабаве адчыніліся дзверы маёй апачывальні.

— Ну што, паехалі? — матнуў галавою ўжо іншы маладзявы старшынка.

— Канечне, хутчэй бы ўжо куды-небудзь ад вас з'ехаць.

— А ты што, заўсёды на беларускай мове? — не стрымаўся, відаць, каб не запытаць выпускнік Акадэміі МУС, калі вёў мяне да машыны.

— Заўсёды.

— Даўно?

— Нядаўна, — усміхнуўся я, — гадоў 12.

— А чаму?

— Чаму?.. Я так вырашыў. Трэба хоць камусьці размаўляць у Беларусі па-беларуску.

— Гэта правільна, — падумаўшы, выдыхнуў баец, — я таксама лічу, што трэба размаўляць.

Запытваць, чаму ж ён не размаўляе — было глупа. У нашай цуд-дзяржаве ўжо сама такая пазіцыя — гэта вялікі гераізм.

Мяне пасадзілі нават у салон «Газелі». Трэба так думаць, што ў багажніку возяць толькі з Цэнтральнага РУУСа. У маўклівай ідыліі мы паехалі ў суд.

Увайшоўшы праз заднія дзверы, я ўбачыў жоначку, якая ў чаканні сядзела на лаве. «Дзяўчынка», — пранеслася ў мяне думка, калі я ўбачыў выраз яе чорных вочак.

— Ну што, як? — запытаў я яе, абняўшы і яшчэ не губляючы надзеі.

— Дзяўчынка, — засмяялася мне на вуха.

— Як так?! — засмяяўся і я ў адказ.

— Ну так, я ёй кажу на УГД: «Дык а муж жа сем месяцаў з хлопчыкам размаўляў». А яна мне: «Ну, нічога, цяпер два з дзяўчынкай пагаворыць».

— Ну нічога, дзяўчынка — гэта добра, — адказаў я і пацалаваў матулю.

«Нічога, дзяўчынка — гэта добра, — перафарматоўваў я свае мары, пакуль сведкі нешта там плялі пра тое, як я злачынна супраціўляўся іхнім законным загадам. — Нічога, дзяўчынка — гэта добра, — адбудаваў я ўжо зусім іншую рэальнасць. — Каб хлопчык, я б адразу ўвёў спартанскі лад жыцця і каменданцкую гадзіну. А дзяўчынку я буду любіць-любіць: я буду заплятаць ёй коскі, цалаваць ёй вочкі... Не, дзяўчынка — гэта цуд!» — канчаткова радаваўся я.

## Што я тут раблю, год за годам? Калі гэта скончыцца? Год? Дзесяць? Дваццаць?

— У вас ёсць пытанні да сведкі? — перапыніў мае летуценні суддзя Гарбатоўскі.

— Канечне, — адказаў я падымаючыся. Перада мною стаяў мой учорашні «сябар», які так ветліва дазволіў мне прыхапіць з сабою ў камеру «падушку».

— Вось учора вы мяне даволі спакойна затрымоўвалі, даволі міралюбіва апісвалі мае рэчы, — пачаў я і перапыніўся на паўзу, чакаючы рэакцыі сведкі. Амапавец хітнуў галавою — быццам бы згаджаецца, а калі не згаджаецца, а проста прыспешвае мой аповед — усё адно не пратэстуе, чаго мне і дастаткова. — І мы нават быццам бы па-сяброўску размаўлялі, жартавалі, а потым, як аказваецца, вы пайшлі і сфальсіфікавалі на мяне ілжывы пратакол. Дык я вось гляджу на вас і не разумею, ці ўсведамляеце вы, што вы робіце? Ці разумеце вы, што сваімі ілжэсведчаннямі прадаяце душу Сатане?

— Я нічога не прадаю, — рэзка адмовіўся той.

— Ну як так не прадаяце, калі пасродкам ілжывых паказанняў вы забіраеце ў мяне свабоду — частку жыцця, якое даў мне Бог? — абураўся я далей і, зважаючы на тое, што суддзя рабіў выгляд дэмакратычнага разгляду справы ды мне не перашкаджаў, працягваў маральнае абгрунтаванне сваіх словаў далей: — Вось вы прыйшлі дахаты і вы распавялі жонцы, дзеткам, што толькі што вы сфальсіфікавалі пратакол на чалавека, каторы цяпер мусіць спаць на бетоне, а потым яго будуць судзіць і дадуць яму суткі — вы распавялі гэта ўсё дзеткам сваім?

— Яны ўжо спалі, — выдаў небарака, не спрабуючы нават спрачацца з маёй інтэрпрэтацыяй падзеяў.

— Дык раніцою трэба было падняць і распавесці пра працу сваю зладзейскую, пра тое, за кошт чаго вы сям'ю ўтрымоўваеце — за кошт прададзенай д'яблам душы.

— Гэта толькі вашыя словы, — не хацеў так проста здавацца няшчасны сведка Руцэвіч.

— Так, на сённяшнім «судзе» гэта проста словы, але я вам сёння сведчу перад Божым абліччам, што калісьці будзе яшчэ і сапраўдны суд — суд Божы, на якім вы адкажаце за свае ілжывыя сведчанні, якімі зараблялі на жыццё і прадавалі душу Сатане.

Камусьці такі спосаб дагрукацца да зладзеяў не падабаецца. Любоў ім, маўляў, абвяшчаць трэба, толькі любоў, якая і збаўляе. Калісьці я спрабаваў так рабіць. Аднак нядаўна, пасля апошніх сваіх камандзіровак: Горкі — Глыбокае — Мазыр — Гародня, удосталь наглядзеўшыся на розныя «цуды» чалавечага скоцтва, я вырашыў жыць па прынцыпе , абвешчаным Хрыстом: «Не кідайце перлаў перад свіннямі, каб яны іх не патапталі сваімі нагамі ды, адвярнуўшыся, не разарвалі вас».

Таму я вырашыў: не, тут трэба з іншага боку. І няхай гэты падыход камусці не падабаецца, але я буду абвяшчаць суд. Гэта, канечне, непрыемна. Непрыемна тым, хто не ведае Біблію, і яшчэ непрыемней тым, хто яе не ведае і ўсім сваім жыццём імкнецца ёй супярэчыць. Такім хочацца, каб абвяшчалася любоў і толькі любоў. Такія ў адну глотку галосяць: «Бог усіх любіць!», што ў перакладзе азначае: «Пі, блудзі, ілжэсведчы — усіх нас любіць Бог!» Некаторыя з іх нават зацытуюць знакамітае: «Бо так палюбіў Бог свет, што Сына свайго Адзінароднага даў...»

Але калі мы будзем памятаць, што і Сатана цытаваў Біблію, спакушаючы Ісуса Хрыста, дык задумаемся. А задумаўшыся, паспрабуем разабрацца. А разбіраючыся, пачнем чытаць далей за пару вырваных цытатаў ды зразумеем, што частка праўды — гэта таксама хлусня. Бо там, дзе сказана «так палюбіў Бог свет», сказана яшчэ нешта: «Бо так палюбіў Бог свет, што Сына свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто верыць у Яго, не памёр, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не будзе асуджаны, а хто не верыць, ужо асуджаны...».

Выходзіць, што асуджаных у гэтым свеце поўным-поўна. Бо як можна верыць у Хрыста і адначасна зладзейнічаць? Нам гэта дзіўна, але ў большасці вельмі складна такое спалучэнне выходзіць. У беларускіх жа міліцыянераў як ні ў кога ў гэтым свеце, найлепей атрымліваецца «верыць» у Бога і разам з тым ілжэсведчыць. Хаця паводле Бібліі, калі і верац такія ў каго-небудзь, дык толькі ў Сатану. Аб чым і гаворыць Хрыстос ілжэсведкам Свайго часу — фарысеям: «Вы — ад бацькі д'ябла, бо ён — хлус і бацька хлусьні».

Зыходзячы з гэтага, ніяк не магу зразумець, чаму нельга мне ці любому іншаму, абапіраючыся на Біблію, абвяшчаць суд над галовамі ілжэсведкаў? Нельга таму, што гэта непрыемна для вушэй? Нельга таму, што гэта злодзеям розных масцей не падабаецца?

Я, напрыклад, усёй істотай прагну знайсці ў Беларусі справядлівы суд. Бо, каб я яго знайшоў, я ведаю, што быў бы апраўданы. У любога ж злачынцы справядлівы суд выклікае страх і агрэсію, бо ён ведае, што будзе такім судом асуджаны. Але няма ў Беларусі суду. Тады я яго абвяшчаю. Я абвяшчаю той Суд, які я дакладна ведаю, што будзе Судом, а не прафанацыяй.

Сапраўдная Любоў не ў тым, каб мы патуралі злачынствам злодзеяў і супакойвалі іх: «Бог усіх любіць», а ў тым, каб мы спрабавалі іх ад злачынстваў адвярнуць.

Ілжэсведкам-амапаўцам я цяпер заўсёды кажу: «Пакайцеся, здымайце гэтую злачынную форму — і бяжыце». І адзін з шасці амапаўцаў, над галовамі якіх я абвяшчаў Суд цягам трох апошніх судзілішаў нада мною, сказаў: «Добра, я падумаю». Значыцца, ёсць надзея, што хаця б аднаму з іх удасца.

*Май 2014, Акрэсціна*

## ІМПРЭЗЫ

### «Маладзечна-2014»

**13–14 чэрвеня ў Маладзечне** адбудзецца 14-ы Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна — 2014». Урачыстае адкрыццё запланаванае на 20.00 13 чэрвеня ў амфітэатры.

## ФУТБОЛ

### «Нёман» — «Дынама»

**15–16 чэрвеня** пройдуць гульні 13-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.
**У нядзелю** гуляюць:
«Белшына» (Бабруйск) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Дняпро» (Магілёў) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Мінск) — цэнтральная сустрэча тура
**У панядзелак** гуляюць:
«Гомель» — «Дынама» (Брэст);
«Мінск» — БАТЭ (Барысаў);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Слуцк».

## КАНЦЭРТЫ

### Madera Hard Blues

**11 чэрвеня ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 7)** выступае «Мадэра Хард Блюз». Пачатак а 19. Уваход вольны.

### Майтай

**12 чэрвеня ў клубе «Таранціна» (Кастрычніцкая, 5)** пройдзе канцэрт гурту «Майтай» (праект былога кавээзшніка Андрэя Дзяркова). Пачатак а 19.

### Akute

**15 чэрвеня ў TNT Rock-club** канцэрт гурту Akute. Пачатак а 20.

### Паліна Рэспубліка

**16 чэрвеня ў клубе «Графіці» (Калініна, 16)** канцэрт Паліны Рэспублікі. Пачатак а 19.

## ВЫСТАВЫ

### «Краявіды Міншчыны»

**Персанальная выстава мастака Дзмітрыя Сарокі** праходзіць у Палацы мастацтваў (Казлова, 3) да 15 чэрвеня. Пра палотны Сарокі можна сказаць, што яны маюць сваю жывапісную мову. Яна лаканічная і выразная. Практычна ўсе палотны мастак піша з натуры.

### «Краявіды зямлі беларускай»

**Да 16 чэрвеня музей Янкі Купалы (Купалы,4)** запрашае на вернісаж трэцяй выставы мастацкага праекта «Краявіды зямлі беларускай: творы класікаў беларускага жывапісу з прыватных збораў». Будуць паказаны выдатныя работы прызнаных майстроў беларускага жывапісу 2-й паловы XX стагоддзя.

### «Свет вачыма дзяцей»

**Да 20 жніўня** ў мабільнай галерэі Нацыянальнай бібліятэкі (прасп. Незалежнасці, 116, 3-ці паверх) можна азнаёміцца з працамі на выставе «Свет вачыма дзяцей». Экспазіцыя змяшчае каля 25 твораў выхаванцаў студыі «Васілёк», якая працуе ў Мінскай абласной спецыяльнай школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннем слыху.



## ГАНДБОЛ

### Беларусь — Чарнагорыя

**15 чэрвеня на «Мінск-Арэне» (пр.Пераможцаў, 111)** пройдзе матч плэй-оф да чэмпіянату свету па гандболе. Нашы майстры «ручнога мяча» прымаюць чарнагорцаў. Пачатак а 18. Білеты — ад 35 да 65 тысяч рублёў.







## ТЭАТРЫ

### 12 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Translations
**Оперы і балета** — Князь Ігар
**Юнага гледача** — Беласнежка і сем гномаў

### 13 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Сад
**Оперы і балета** — Шчаўкунок
**Юнага гледача** — Кот у ботах

### 14 чэрвеня

**Лялек** — Мыйдадзір

### 15 чэрвеня

**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Оперы і балета** — Кармен

### 16 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Оперы і балета** — Спартак

### 17 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Оперы і балета** — Травіята
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 18 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — Дзённік паэта
**Оперы і балета** — Карміна Бурана. Кармен-сюіта
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

## КІНО

### Прыхадні ў Парыжы

Грань будучыні
**Жанр:** фантастыка, баявік
**Рэжысёр:** Даг Лайман
**У ролях:** Том Круз, Эмілі Блант, Брэндан Глісан, Біл Пэкстан, Джонас Армстранг, Тоні Вэй, Кік Гары
ЗША, Аўстралія, 113 хв.

Варожая раса прыхадняў, якіх называюць мімікамі, вядзе захопніцкую вайну на Зямлі. Для барацьбы з імі аб'яднаная армія зямлян стварыла экзашкілеты, якія, як здаецца, нарэшце дазволілі эфектыўна супрацьстаяць іншапланетнікам. Праз палітычныя гульні маёр Біл Кейдж, не падрыхтаваны да ваенных дзеянняў, аказваецца ва ўзводзе, які на наступны дзень павінен адправіцца на перадавую. Ён прачынаецца ў вучэбцы, каб на наступны дзень упершыню апрануць экзашкілет і загінуць праз некалькі хвілін пасля высадкі на полі боя, прыхапіўшы з сабой мімікаальфу. Кроў іншапланетніка змешваецца з крывёй зямляніна, і гэта запускае механізм часавай пасткі: Кейдж будзе раз за разам пражываць гэты дзень, перазапускаючы падзеі і пранікаючы ў свядомасць захопнікаў, якія маюць агульны мозг — міміка-амегу — і могуць кіраваць часам. Да таго ж ён даведаецца, што не адзін такі... У аснове фільма — кніга Хіросі Сакурадзакі «Усё, што табе трэба, — забіваць». Сюжэт звяртаецца да найцікавейшых тэмаў навуковай фантастыкі: агрэсіўныя прыхадні і падарожжы ў часе. Рэжысёр, які спецыялізуецца на баевіках («Містар і місіс Сміт» (2005), эпапея пра Борна), стварыў нешта прынцыпова новае для сябе, са складаным сюжэтам і філасофскім складнікам.
Цікава, што Эмілі Блант выканала адну з галоўных роляў у фільме «Пятля часу» (2012), дзе сюжэт таксама заснаваны на эксперыментах з часам. А Том Круз другі год запар здымаецца ў фантастычных фільмах, сюжэт якіх звязаны з прыхаднямі(«Аблівіян», 2013).

**Настасся Уласава**



# Азаранка і Рэдфу разлучыліся

Журналіст NY Times Бэн Ротэнберг паведаміў, што былая першая ракетка свету, беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка разышлася са сваім маладым чалавекам, музыкам Рэдфу. «Крыніца, блізкая да кампаніі Вікторыі расказала, што яны з Рэдфу расталіся пасля 20 месяцаў сустрэчаў», — напісаў журналіст.

Яшчэ два месяцы таму знаёмыя зорнай пары казалі пра магчымае вяселле. Цырымонія нібыта мусіла адбыцца ў Індыі. Азаранка нават фатаграфавалася з заручальным пярсцёнкам.

Беларуская тэнісістка не выходзіла на корт з 8 сакавіка праз траўму нагі. За гэты час яна апусцілася на пяты радок сусветнага рэйтынгу.

На мінулым тыдні стала вядома, што Азаранка возьме ўдзел ва Уімблдоне. Адкрыты чэмпіянат Францыі («Ралан Гарос») Вікторыя прапусціла.

**АГ**



**Фотафакт**

**У Беларусі стварылі снегабалотаход**

Беларуска-нямецкае прадпрыемства «МАЗ-МАН» сканструявала снегабалотаход ВМЕ-1915. Гэта машына прызначаная для язды па бездаражы, таксама можа пераадольваць водныя перашкоды. Кузаў снегабалотахода зроблены са шклапластыку, злучанага з металічным корпусам. У якасці опцыі існуе магчымасць устаноўкі грабнога вінта. Рухавік усюдыхода прапануецца ў дзвюх камплектацыях: бензінавы («Ніва») і дызельны («Фіят»). Арыенціровачны кошт снегабалотахода — $48 тысяч.

**БелаПАН**

# Рыяна выйшла ў свет у сукенцы, пад якой нічога не было



На цырымоніі ўручэння прэміі CFDA Fashion Awards 2014 гераіняй вечара стала Рыяна. Спявачка, якая любіць здзіўляць публіку, прыйшла на цырымонію ў празрыстай сукенцы дызайнера Адама Селмана з 230 тысячамі крышталяў Swarovski.

Па словах Адама Селмана, яго ідэя цалкам удалася. «Мы хацелі зрабіць сукенку злёгку скандальнай, гэта — толькі сетка з крышталяў. У аснове моды ляжыць прыгажосць, і жаночае цела з'яўляецца яе часткай, — распавёў дызайнер. — Рыяна смелая, дзёрзкая, не баіцца моды і не дазволіць ёй узяць над сабой верх. Яна любіць моду і робіць кожны строй індывідуальным. Гэта не шмат каму дадзена».

**Delfi.lt**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Цар і бацюшка

Нядаўна ў Мінску адбыўся IV Еўрапейскі праваслаўна-каталіцкі форум.

З таго, што дайшло з гэтага форуму да слыху грамадскасці, можна зрабіць несуцяшальную выснову: Еўропа коціцца ў тартарары...

Асабліва хвалююцца з гэтай нагоды іерархі РПЦ і Аляксандр Лукашэнка.

Ды і як не хвалявацца, калі, як лічыць мітрапаліт Іларыён, пануючай ідэалогіяй у Еўропе робіцца атэізм і «такая форма плюралізму, якая прадугледжвае, што рэлігіі няма месца ў грамадскай прасторы, што яна можа існаваць на прыватным узроўні асобных індывідуумаў».

У Аляксандра Рыгоравіча свае хваляванні: «У шмат якіх краінах Захаду культ спажывальніцтва і пагоня за ўцехамі робяцца рэальнымі пагрозамі духоўнага выраджэння людзей і заняпадніцкай трансфармацыі дзяржаў».

Моцна! Асабліва ў параўнанні з адсутнасцю любой, нават заняпадніцкай, трансфармацыі беларускай дзяржавы...

Між тым, мала хто ведае, што смуродная хваля спажывальніцтва накрыла Еўропу з нашага дабраслаўленнага Усходу. Я нават ведаю адно з тых месцаў, адкуль яна ўзнялася.

Гэтае месца, як яно і мае быць, месціцца бліжэй да Бога, на гары, дзе з 1960-х гадоў стаіць нетыповы па тых часах, а па сённяшніх — зусім звычайны мінскі дом. Ажно ад філармоніі можна пабачыць, што гэта «Дом праваслаўнай кнігі».

«Што, у гэтым доме жывуць адны праваслаўныя?» — спытаўся ў мяне сталы чалавек, прыезджы па выглядзе, што грэўся побач на веснавым сонейку. «Ды не, гэта рэклама крамы, што гандлюе рэлігійнай літаратурай, адно што займае ледзь не ўсе 11 павярхоў». — «А «Бобруйск-Мебель» на даху — таксама рэклама?» — працягваў цікавіцца прыезджы. «Так, крамы, што ў доме побач. Яго адсюль не бачна...»

Такое вось спалучэнне духоўнасці і культу спажывальніцтва.

Культу, які і распачаўся ад сярэдзіны 1960-х, атрымаўшы прыкрую па-савецку назву «вешчызм». Гэта калі людзі літаральна начавалі ў вялікіх пад'ездах будучага апірышча духоўнасці, каб зранку запісацца ў чаргу на канапу ці крэсла. Што праўда, тады апірышча не было. Было гняздо распусты, то бок кафэ. Вось адкуль, як я разумею, рынулася ў Еўропу хвалюючая Аляксандра Рыгоравіча «маральная дэградацыя грамадства,

### Рэдкі палітык устрымаецца ад спакусы застацца ў гісторыі ў абдымку з Богам

адмова ад хрысціянскіх прынцыпаў маралі, разбурэнне сямейных асноў» Мацаваць тыя прынцыпы і асновы ўзялася тады адна з жыхарак, жонка генерала: пачала збіраць подпісы, каб замест кафэ запрацаваў... ваенкамат.

Я думаю сёння, узгадваючы тыя часы бязмежнага «спажывальніцтва» і ваяўнічага атэізму: адкуль у іерархаў РПЦ такі клопат пра плюралізм еўрапейцаў, а ў кіраўніка дзяржавы — пра іх духоўнасць і «заняпалую трансфармацыю» еўрапейскіх дзяржаў?

Ці не хаваецца за гэтым клопатам чарговая спроба зацвердзіць у грамадскай свядомасці царкву ў якасці галоўнага дзяржаўнага ідэолага? Сказана ж адноййчы: «Мы ніколі не адасаблялі сябе ад царквы, дзяржава ж і царква вырашаюць адну і тую ж задачу».

Хто «мы»? Каго «сябе»? Якую «задачу»? Мо барацьбы са спажывальніцтвам і пагоняй за ўцехамі?

Рэдкі палітык устрымаецца ад спакусы застацца ў гісторыі ў абдымку з Богам, выкарыстаць такі моцны сацыяльны інстытут, як царква. Добра яшчэ, калі для вырашэння надзённых людскіх праблем. Часцей — для заваявання і ўтрымання ўлады. Але ў дэмакратычных краінах такія памкненні абмяжоўваюцца законамі, адкрытым грамадскім ганьбаваннем ды і самой царквой, якая цураецца прамой падтрымкі палітыкаў, але не ўхіляецца ад маральнай ацэнкі іх рашэнняў, дзеянняў і паводзін. І не дазваляе выкарыстоўваць сябе ў палітычных мэтах, калі яны не руйнуюць грамадскую мараль. Хаця б таму, што не за ўсе яшчэ гістарычныя парушэнні выбачылася...

У нас выбачацца не заведзена. У нас заведзена асвячаць.

А каб працэс асвячэння праходзіў без перашкод, «цар», умоўна кажучы, вельмі хоча быць «бацюшкам», а «бацюшка» не знаходзіць у сабе моцы выцурацца прэтэнзіяў на «царскі» ўдзел у дзяржаўных справах і палітыцы. Нас намагаюцца запэўніць, што такім чынам дасягаецца адзінства нацыі і грамадства — на веры ў Бога і ў «цара-бацюшку», нібыта добра-такі падарванай гістарычнымі анамаліямі. Але анамаліі скончыліся, і знойдзена, нарэшце, формула для яднання. Усе ведаюць гэтую няхітрую формулу, што аднойчы саскочыла з языка: праваслаўны атэізм...

Але не «цар» і не «бацюшка» вырашаюць, якое месца ў жыцці чалавека займае рэлігія, а сам чалавек, што добраахвотна аддае сябе ва ўлонне веры.

Ідэалогій шмат, а вера, якую абірае чалавек, адна.

Сказана ж: «Кесарава — кесару, а божае — Богу». І кропка.

Нагадаю толькі, што па адказ на хвалюючае іх пытанне да Ісуса прыйшлі фарысеі...

*kamerton_41@mail.ru*




**У суботу 7 чэрвеня ў Мінску, на стадыёне «Тарпеда», у 2-й лізе адбылося сталічнае «дэрбі» паміж футбольнымі клубамі «Тарпеда-Мінск» і «Партызан». Сектар «чорна-белых» у першым тайме зацягнуў верш Янкі Купалы «Не быць скотам». Гульня ж скончылася з лікам 0:0. Фішка ў тым, што абодва гэтыя футбольныя клубы жывуць на сродкі фанатаў.**




**Сельгасвыставу «Белагра-2014», якая прайшла ў Мінску, наведала дэлегацыя высокіх гасцей з Расіі. У тым ліку — старшыня Савета Федэрацыі Валянціна Матвіенка.**



**Дзясяткі тысяч людзей утварылі жывы ланцуг, даўжынёй больш за 120 кіламетраў, патрабуючы незалежнасці басконскага рэгіёна. Дэманстранты, многія з якіх абгарнуліся ў чырвона-бела-зялёныя сцягі, сталі ланцужком ад горада Дуранга ў Краіне Баскаў да горада Памплона — сталіцы аўтаномнага рэгіёна Навара.**



**У ЗША на 112-м годзе жыцця памёр жыхар Нью-Ёрка, які лічыўся найстарэйшым мужчынам у свеце. Аляксандр Іміч (Іміх) нарадзіўся ў Польшчы, у Чэнстахове, 4 лютага 1903 года ў яўрэйскай сям'і. Цікава, што ён быў жанаты з ураджэнкай Беларусі: яго жонку звалі Веле Кацэленбоген, яна была з Шарашова (сёння — Пружанскі раён).**

## ☺ Анекдоты і жарты

* * *

Тым часам ЗША адстаюць ад нас у сферы інфармацыйных тэхналогій. Напрыклад, на сайце адміністрацыі Нью-Ёрка нельга пабачыць графік адключэння гарачай вады.

* * *

Наракае адзін чыноўнік другому.

— Ведаеш, craду, craду, а на жыццё ўсё роўна не хапае.

— А ты крадзі яшчэ і ў іншым месцы.

* * *

Пуцін разгадвае крыжаванку.

— Украінскі народны музычны інструмент. Сем літар. Першая — Б, апошняя — А... Няўжо і тут Бандэра?!

* * *

Дзмітрый Яраш, наглядзеўшыся расійскіх тэлеканалаў, стаў баяцца «Правага сектара».

* * *

Навошта кіеўскія фашысты падкідаюць летам снег пад ногі бежанцам з Украіны перад тым, як іх сфатаграфаваць на фоне штучна створаных хунтай гор?

* * *

— Каханая, прачынайся! Табе праз 15 хвілін трэба на працы быць.

— Ты што, раней мяне пабудзіць не мог? Мне толькі фарбавацца трэба 20 хвілін!

— Не турбуйся: пакуль ты спала, я цябе нафарбаваў.

## «НН» сто гадоў з вамі

Хутка пачнуць будаваць тэлефон з Пецярбурга ў Вільню і Варшаву. Закончаць работы за якія 2—3 гады. Гэткім парадкам знаёмыя, тыя, што ў Пецярбурзе, будуць магчы гаварыць са сваімі знаёмымі ў Вільні і Варшаве і наадварот.

**«НН». №23. 1914.**

3 чэрвеня дэпутаты Фралоў, Скрабец і Парфяновіч абвесцілі галадоўку ў знак пратэсту супраць неўнясення ў парадак работы сесіі законапраекта аб зменах у выбарчы кодэкс. Іншыя патрабаванні — выпусціць з турмы Міхаіла Марыніча і адмовіцца ад зменаў у Канстытуцыі аб трэцім тэрміне для Лукашэнкі.

**«НН». №22. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
наменнікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 10.06.2014.
Замова №2386.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14022